ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 30 (2328) 29 ліпеня 1993 г. Выдаецца з 1955 г.

НЕТРАДЫЦЫЙНАЯ ЭНЕРГЕТЫКА

## ДАРЭМНА ШУМІЦЬ НА ШЛЮЗАХ ВАДА

Стары млын у засені вербаў ведалі ўсе, бо кожнай вясковай сям'і трэба было ці змалоць збожжа, ці абадраць крупы.

У апошняга млынара была вялікая сям'я — пяцёра дзяцей. Але яны з часам пакінулі дом млынара, а потым і бацькі з'ехалі некуды да дзяцей, бо не так часта ўзнікала патрэба малоць жыта. Хлеб даўно ўжо не пяклі. Ад паўразбуранага млына засталася толькі казка пра вадзяніка ды русалак.

Таксама самотным і адзінокім застаўся ветрак ля суседняй вёскі.

Дык мо і сапраўды няма патрэбы зараз у млынах ды ветраках? Аднак жа эканамічны крызіс у першую чаргу закрануў нашу энергетыку, і найбольш вострая сёння праблема закупак нафты, мазуту, газу і іншых энерганосьбітаў, якія пастаянна даражэюць і дасягнулі ўжо сусветных цэнаў.

Праблемы нетрадыцыйнай энергетыкі цікавілі мяне даўно, і лёс падарыў мне сустрэчу з чалавекам, неабыякавым да гэтага пытання і кампетэнтным.

Усевалад Пекеліс шмат гадоў працуе ў навукова-даследчым інстытуце "Белэнергасеткапраект". Гэта галаўная арганізацыя ў Беларусі па распрацоўцы і прымяненню нетрадыцыйных крыніц энергіі.

Усевалад Пекеліс — кандыдат тэхнічных навук, заслужаны рацыяналізатар.

— Што ж такое нетрадыцыйныя крыніцы энергіі? — было першае маё пытанне да спецыяліста.

— Да катэгорыі нетрадыцыйных крыніц энергіі прынята адносіць малую гідраэнергетыку, ветраэнергетыку, геліяэнергетыку, біяэнергетыку. Сюды ж трэба аднесці і малую энергетыку на арганічным паліве, г. зн. невялікія цеплаэлектрастанцыі, газатурбінныя і паратурбінныя. У 60—70-х гадах у Беларусі, у час найбольшага росквіту малой гідраэнергетыкі, існавала значная колькасць малых ГЭС на агульную магутнасць 22 тысячы кілават. Потым, калі пачалося будаўніцтва буйных электрастанцый на арганічным паліве і на гарызонце з'явілася атамная энергетыка, увага да малых ГЭС адразу знізілася, а потым пачалося самае сумнае — іх варварскі дэмантаж. Мне самому даводзілася назіраць не раз такую карціну: зрэзаны вал генератара, каб здаць на каляровыя металы яго абмоткі. Узнавіць жа тое, што яшчэ засталося неразрабаваным, надзвычай цяжка. На сённяшні дзень у нас агульная магутнасць усіх дзеючых ГЭС менш чым 5 тысяч кілават з тых 22-х, якія былі гадоў 30 назад.

— Ведама, у цяперашнім нашым становішчы даводзіцца эканоміць і на дробязях. Аднак жа хацелася б ведаць, што мы атрымаем, аднавіўшы малыя ГЭС?

— На існуючых вадасховішчах энергетычнага і неэнергетычнага прызначэння, а таксама на прамысловых і камунальных вадаспадах (тут маецца на ўвазе ачышчальныя збудаванні) можна ў рэспубліцы ўзнавіць і адбудаваць гідраэлектрастанцый на агульную магутнасць 100 тысяч кілават. Гэта, вядома, не так і многа, але якраз столькі, колькі спажывае Мінскі трактарны завод, адзін з буйнейшых спажыўцоў энергіі рэспублікі. Але галоўнае, што за кошт малых ГЭС мы маглі б зэканоміць 170 тысяч тон умоўнага паліва і хоць крыху вызваліць рэспубліканскі бюджэт ад яго закупак.

— Аднак не так лёгка ды і дорага зараз узнаўляць і адбудоўваць тыя закінутыя і паўразбураныя ГЭС...

(Заканчэнне на 3-й стар.).

НАТАТКІ З МІЖНАРОДНАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ КРАІН БАЛТЫЙСКА-ЧАРНАМОРСКАГА РЭГІЁНА

## У ПОШУКАХ ВЫЙСЦЯ З КРЫЗІСУ

14—15 ліпеня ў Мінску прайшла Міжнародная канферэнцыя краін Балтыйска-Чарнаморскага рэгіёна "Шляхі выхаду з паліўна-энергетычнага крызісу". Аб неабходнасці такой сустрэчы, як месяцы і даце дамовіліся лідэры апазіцый Беларусі, Украіны і Літвы Зянон Пазьняк, Вячаслаў Чарнавіл і Вітаўтас Ландсбергіс на III з"ездзе БНФ, які адбыўся ў канцы мая ў Мінску. На канферэнцыі прысутнічалі прадстаўнікі дэмакратычных партый Украіны, Літвы, Латвіі і Беларусі, групы экспертаў (ад кожнай дзяржавы), якія прадстаўлялі дзяржаўныя структуры (міністэрствы і камітэты па профілю канферэнцыі), а таксама кіраўнікі вядучых галіновых інстытутаў і ўстаноў.

Асноўная ідэя канферэнцыі — стварэнне Балтыйска-Чарнаморскага нафтавага калектара (БЧНК), змяншэнне залежнасці ад паставак нафты з Расіі з выкарыстаннем портаў Чорнага і Балтыйскага мораў.

На канферэнцыі прыняты Зварот да ўрадаў і парламентаў Беларусі, Літвы, Латвіі і Украіны аб рэалізацыі праекта БЧНК, а таксама Заява прадстаўнікоў партый і рухаў Беларусі, Латвіі, Літвы і Украіны аб прынятай Вярхоўным Саветам Расійскай Федэрацыі Пастановы аб статусе горада Севастопаля.

Спачатку павінна быць слова. Вось менавіта таму, каб сказаць гэта першае слова, выказаць свае прапановы і пачуць думку іншых бакоў наконт даволі новай ідэі — магчымасці збудавання Балтыйска-Чарнаморскага нафтавага калектара, сабраліся ў Мінску прадстаўнікі новых незалежных краін. Прымусіў іх гэта зрабіць паліўна-энергетычны крызіс, які зараз пануе амаль што ва ўсіх дзяржавах былога СССР, а таксама іх залежнасць ад манапольнага пастаўшчыка нафты і іншых энергарэсурсаў — Расіі. Пошукі альтэрнатывы расійскай нафце і былі галоўнай тэмай канферэнцыі.

Трэба адзначыць: паразуменне у тым, што павінна быць некалькі пастаўшчыкоў нафты, было дасягнута адразу ўсімі ўдзельнікамі канферэнцыі. Гэтая ідэя мае самы нармальны і здаровы сэнс, і тут нічога новага няма. Як было заўважана адным з дакладчыкаў, у большасці заходне-еўрапейскіх краін існуюць законы, згодна з якімі доля аднаго пастаўшчыка нафты не павінна перабольшваць 30 працэнтаў агульнага выкарыстання. Такім чынам, праект БЧНК нельга разглядаць, як адмову ад паставак нафты з Расіі. Наадварот, ён ставіць адносіны і гандаль з Расіяй на зусім іншы якасны ўзровень, пазбаўляе ўмоў манапалізму і дыктату, спрыяе стварэнню стабільнага і насычанага рынку нафты і іншых рэсурсаў.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

САМАБЫТНЫЯ І НЕПАЎТОРНЫЯ "ЛІЦЬВІНЫ"



## "ВАШАГА ВЫХАДУ ЧАКАЛІ"

**Гурт "Ліцьвіны" з'явіўся на сцэне раптоўна. У 1992 годзе выйшла аўдыкасета. У тым самым годзе ўдзел у трох фальклорных фестывалях, прэзентацыя на сцэне Дома літаратара, выступленні ў Польшчы... Як бы ні было багата зараз фальклорных гуртоў, "Ліцьвіны" належаць да тых адзінкавых, што так не падобны да іншых. Здзіўляе часам, як гэта можна выконваць такую знаёмую нам музыку так падкрэслена традыцыйна і так арыгінальна адначасова. Каб хоць на момант зазірнуць у творчую майстэрню "Ліцьвіноў", мы вырашылі пагутарыць з іх стваральнікам і кіраўніком Уладзімірам БЯРБЕРАВЫМ.**

**— У вас дзіўнае для слыху беларуса прозвішча. Мне чуецца ў ім нешта цюркскае...**

— Бярбераўскіх львоў, напэўна, нагадвае... А калі сур'ёзна, дык паходжанне ў майго прозвішча балгарскае і першапачаткова гучала як Белбераў. У часы турэцкага іга цюркскі прэфікс "кара" перад славянскім прозвішчам сведчыў, што яго носьбіт патурчаны. "Бел" жа, адпаведна, азначаў, што ён не паддаўся асіміляцыі. Сямейнае паданне гаворыць, што Бярберавым стаў мой дзед пад націскам нямецкамоўнага асяроддзя, якое ламала сабе язык аб спалучэнне санорных "л" і "р" у яго прозвішчы. Паколькі немцу лягчэй было вымавіць два "р" адно за другім, мой дзед, які студэнцкія гады правёў у Аўстраліі і Германіі, "удасканаліў" сваё прозвішча, што цяпер гучала, як цюркскае, якое, дарэчы, і зараз існуе ў нашым былым Заказказзі. Так што, як бачыце, перад варварствам мае продкі выстаялі, але сталі ахвярамі цывілізаванай асіміляцыі.

**— Па маці, Валянціне Куляшовай, вы беларус. Кім жа вы сябе адчуваеце?**

— Беларусам. Нарадзіўся я ў Мінску і першыя два гады, пакуль мае бацькі давучаліся — яны былі студэнтамі філфака Маскоўскага універсітэта — я жыў у сям'і дзеда, Аркадзя Куляшова.

(Заканчэнне на 7-й стар.).

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

СУМНАЯ СТАТЫСТЫКА

## НАСЕЛЬНІЦТВА СТАНОВІЦЦА МЕНШ

Перанасяленне нашай рэспубліцы не пагражае. Са студзеня па май 1993 года нараджальнасць на адну тысячу насельніцтва склала 11,6, а памерла і загінула 13 чалавек. У параўнанні з адпаведным перыядам 1992 года колькасць народжаных скарацілася на 5,3 працэнта, памёршых, наадварот, павялічылася на 12,2 працэнта. Галоўнымі прычынамі смяротнасці, як лічаць у Дзяржкамстаце, з'яўляюцца захворванні сістэмы кровазвароту, а таксама самагубствы, забойствы і няшчасныя выпадкі, якіх было ў мінулым годзе звыш 12 тысяч. Самагубствы і забойствы забіраюць у асноўным маладыя жыцці. На жаль, тут наглядаецца тэндэнцыя росту. Так, калі летась са студзеня па май забойстваў было 327, дык за адпаведны перыяд гэтага года ўжо каля 500.

ЗАЯВА МА РБ

## БЕСПАДСТАЎНЫЯ АБВІНАВАЧАННІ

Заява па вайсковаму пытанню, прынятая Першым з''ездам беларусаў свету, у якой некаторыя дэлегаты абвінавачвалі вайскоўцаў у навязванні і варожым стаўленні да беларускай мовы, праследаванні патрыятычна настроеных ваеннаслужачых і г.д., выклікала неадназначныя водгукі ў грамадстве.

Нядаўна з адпаведнай заявай выступіла і Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь. У ёй адзначаецца, што Першы з''езд беларусаў свету стаў яркай падзеяй у культурна-нацыянальным жыцці Беларусі. Але, на жаль, сюды былі прыўнесены элементы палітыканства.

Не больш чым неўразуменне выклікае палітычна патрапаная фразеалогія БЗВ аб праследаванні ў войсках патрыятычна настроеных ваеннаслужачых, што ўтрымліваецца ў заяве з''езда, аб перашкодзе вяртанню на Радзіму афіцэраў-беларусаў з боку Міністэрства абароны і іншыя галаслоўныя абвінавачанні, якія не маюць нічога агульнага з рэальнасцю.

Міністэрства абароны заяўляе, што прынятая з''ездам заява з''яўляецца прадуктам пэўных палітычных сіл, негатыўным чынам уздзейнічае на гістарычны працэс кансалідацыі беларусаў свету, згуртавання ўсіх грамадзян рэспублікі незалежна ад нацыянальнасці, веравызнання і палітычных арыентацый, у справе ўмацавання дзяржавы і яе абароны.

ЗАЯВА БСДГ

## У БАРАЦЬБЕ ЗА НЕДАПУШЧЭННЕ ДЫКТАТУРЫ

Выканкам Цэнтральнай Рады БСДГ звярнуўся з заявай наконт вынікаў работы XII сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

У заяве гаворыцца, што ўлада ў краіне належыць блоку камуністычна-наменклатурных сіл. Ва ўмовах катастрафічнага стану эканомікі, які ў хуткім часе можа прывесці да сацыяльнага выбуху, імкненне кіруючых колаў да ўвядзення дыктатуры відавочнае. Парламенцкая большасць нават учыніла спробу надаць гэтай уладзе абсалютны характар. Але падпарадкаваць КДБ Саўміну і замяніць С. Шушкевіча на стаўленіка камуністаў не ўдалося.

Дзякуючы намаганням дэпутатаў дэмакратычнай арыентацыі, у тым ліку і Грамады, прыняты нарэшце законы аб імянных прыватызацыйных чэках, аб уласнасці на зямлю, аб экалогіі і інш.

Беларускія сацыял-дэмакраты лічаць, што імкненне камуністычна-наменклатурных сіл да абсалютнай улады робіць надзвычай актуальнай праблему каардынацыі намаганняў усіх дэмакратычных партый, рухаў і прафсаюзаў у барацьбе за недапушчэнне дыктатуры.

ГУМАНІТАРНАЯ ДАПАМОГА

## АКЦЫЯ "НАДЗЕЯ—ЭКСПРЭС-2"

Два з паловай мільярды рублёў — такі вынік акцыі "Надзея—Экспрэс-2", праведзенай амерыканскай гуманітарнай арганізацыяй "Сіці Хоўп Інтэрнэшнл" сумесна з аддзелам гуманітарнай дапамогі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

На працягу паўтара месяца амерыканскія самалёты даставілі ў нашу рэспубліку 12,5 тысячы тон прадуктаў харчавання: алей і масла, малочныя прадукты, сухое малако і дзіцячае харчаванне. Трэцяя частка гуманітарнага грузу бясплатна перададзена рэспубліканскім бальніцам, дзіцячым дамам і дамам для састарэлых. Астатняе рэалізоўвалася па існуючых у Беларусі цэнах на гэтыя прадукты.

АДКРЫТА ДОШКА

## У ГОНАР МІХАСЯ ТКАЧОВА

У Мсціславе адбылося ўрачыстае адкрыццё мемарыяльнай дошкі ў гонар Міхася Ткачова. Дошка ўсталявана на будынку, у якім з 1949 па 1959 год гэты вядомы беларускі гісторык і палітычны дзеяч вучыўся ў школе. 400 тысяч рублёў на выраб памятнага знака выдзеліў гарадскі Савет народных дэпутатаў. На ўрачыстасці прысутнічалі прадстаўнікі Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады, першым старшынёй якой з'яўляўся Міхась Ткачоў, і мясцовай грамадскасці.

Яшчэ адну памятную дошку ў гонар Міхася Ткачова плануецца ўсталяваць восенню ў Гародні на доме, дзе пэўны час жыў гісторык.

ГЕАЛАГАРАЗВЕДАЧНАЯ ЭКСПЕДЫЦЫЯ



Быць ці не беларускім алмазам! Сёння па гэтаму пытанню шмат спрэчак і меркаванняў. Даць на канкрэтны адказ заклікаены геолагі. У рамках распрацаванай праграмы "Беларускія алмазы" члены геолагаразведачнай экспедыцыі вядуць бурэнне ў розных кутках рэспублікі, выкарыстоўваючы даныя аэрафотаздымак. Даследуюцца ўсе мяркуемыя месцы залягання.

Вывады, зразумела, рабіць рана, але, паводле сцвярджэння вопытных геолагаў, перспектыва абнадзейвае.

НА ЗДЫМКУ: бурэнне глебы на аналіз алмазаўтрымліваючай пароды ў раёне Жлобіна.

ПА ДАСТУПНАЙ ЦАНЕ

## СУМЕСНА З АМЕРЫКАНСКАЙ ФІРМАЙ

Шакаладныя батончыкі і пліткі гомельскай кандытарскай фабрыкі "Спартак" змогуць скласці канкурэнцыю заморскай прадукцыі.

Кандытарскія вырабы, што так любяць дзеці, прадпрыемства і ў гэтым годзе будзе выпускаць разам з амерыканскай фірмай "Трыліні Світс".

На фабрыцы ўжо пакаштавалі шакалад "Парк Авеню" з эксперыментальнай партыі. На думку дэгустатараў, прадукцыя выдатная. Да таго ж і цана стограмовай пліткі даступная: крыху больш за 300 рублёў. Дарэчы, толькі за суткі фабрыка выпускае 40 тон пячэння і 22 тоны самых розных цукерак.

"ПРЫХВАТЫЗАЦЫЯ"



Нібыта грыбы пасля дажджу, растуць апошнім часам на нашай зямлі катэджы. Ды не проста дамы — палацы! І калі раней іх гаспадары спабордічалі ў арыгінальнасці праекта (у каго больш велічны), то цяпер — і ў выбары месца забудовы. Усе стараюцца бліжэй да воднай гладзі.

Горы цэглы і бетонных блокаў выраслі і на беразе Сожа ва ўрочышчы Плёсы. Яшчэ нядаўна сюды любілі прыязджаць гамельчане: адпачывалі, катаціся на яхтах. Цяпер высокія металічныя агароджы размяжоўваюць тэрыторыю на асобныя ўчасткі, больш чым па паўгектара кожны. І растуць дамы — адзін прыгажэйшы за другі. Вядомы і "першапраходцы": імі сталі кіраўнікі гомельскай раённай аграпрамтэхнікі.

А існуе ж палажэнне, па якому бліжэй трыццаці метраў да вады будаўніцтва весці нельга. Ды і ўчастак павінен быць строга вымераны. Дык толькі ж ніхто не мерае.

НА ЗДЫМКУ: так выглядае адзін з катэджаў у Плёсах.

"Я да такой цывілізацыі не імкнуся. Праўда, зусім не ведаю Еўропы, быў усяго два тыдні ў Нямеччыне, якая мне ў параўнанні з Амерыкай здалася раем. Гэта краіна з каранямі, адчуваецца ва ўсім культура, традыцыі. Чаго абсалютна не відаць у Амерыцы. Людзі абмежаваныя, літаратуру большасць ведае на ўзроўні коміксаў. Культуру сусветную ведаюць адзінкі, музыку — таксама. Яны нічога, акрамя амерыканскай музыкі, не слухаюць. Я быў, напрыклад, на канцэрце Патрыцыі Каас — прыйшлі савецкія эмігранты, крыху французаў і ўсё. На канцэрце Чэслава Немана — тое самае: польская эміграцыя і беларусы, амерыканцаў зноў не было. Іх не цікавяць іншыя культуры. Іншага яны не ведаюць і не хочуць ведаць. Безумоўна, на ўсю нацыю абагульняць нельга. Пэўна ж, ёсць культурная частка, якая арыентуецца значна шырэй".

(З інтэрв"ю С.СОКАЛАВА-ВОЮША газеце "Звязда").

АДУКАЦЫЯ

## НА РОДНАЙ МОВЕ

Прыкладна палавіна вучняў у школах рэспублікі ў новым навучальным годзе будзе вучыцца на роднай мове.

Як паведаміў начальнік Упраўлення агульнай і сярэдняй адукацыі Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь Г.Пятроўскі, першыя класы ў новым навучальным годзе выйдуць на ўзровень патрабаванняў Закона аб мовах, а гэта азначае, што 75—80 працэнтаў школьнікаў будуць вучыцца на беларускай мове, 67 працэнтаў — на роднай мове ў другім і крыху менш — у трэцім класе.

СТЫПЕНДЫІ

## ІМЯ П. МАШЭРАВА

Закрытае акцыянернае таварыства "Фонд развіцця Магілёва" зацвердзіла тры заахвочвальныя стыпендыі імя вядомага дзяржаўнага дзеяча Беларусі П. Машэрава. Яны прызначаны для студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў, грамадзян Рэспублікі Беларусь, якія праявілі сябе ў творчай і навуковай дзейнасці. Стыпендыя назначаецца па выніках навучальнага года і выплачваецца на яго працягу кожны месяц. Яе сума роўная тром мінімальным зарплатам.

У "ГАРАЧЫХ" ПУНКТАХ

## ЦІ Ж ЗА СВАЮ РАДЗІМУ?..

Тысячы беларускіх хлопцаў праходзяць ваенную службу далёка ад радзімы. Рапарты з просьбай вярнуць іх на зямлю бацькоў пакуль не заўжды задавальняюцца. І таму салдат-беларусаў нярэдка можна ўбачыць паўсюль на тэрыторыі былога Саюза, у тым ліку і ў так званых гарачых пунктах — там, дзе льецца кроў у міжнацыянальных канфліктах.

На жаль, не абыходзіцца і без гібелі нашых хлопцаў. Вось апошняе паведамленне: у час нападу афганскіх маджахедаў і мясцовых экстрэмістаў на заставу ў перадгор'ях Паміра загінуў старшы сяржант з Гомельшчыны Сяргей Сыч.

Міжволі напрошваецца пытанне: а што будзе, калі Беларусь уступіць у калектыўны Дагавор краін былога Саюза па бяспецы, дзбаты вакол якога ўжо доўгі час вядзе наш парламент?..

Тады яшчэ менш будзе гарантый, што беларускіх хлопцаў не пашлюць у розныя "гарачыя" пункты.

# ДАРЭМНА ШУМІЦЬ НА ШЛЮЗАХ ВАДА

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

— Так, гэта складана найперш таму, што абсталяванне для малой энергетыкі ні ў нас, ні ў рэспубліках былога СССР не выпускаецца. У Расіі ёсць адзіны завод, які толькі асвойвае вытворчасць абсталявання для малых ГЭС. Але не абыдзецца без праблем закупка гэтых машын. Вось таму вытворчасць рухавікоў наладжваецца ў Беларусі. За гэту справу ўзяўся Бабруйскі электрамашынабудаўнічы завод. Эксперыментальная партыя малых агрэгатаў павінна з'явіцца ў хуткім часе. Ужо з гэтага года ў нас пачнецца паступовы ўвод у эксплуатацыю малых ГЭС. Найбольш падрыхтаваныя да працы — гэта гідраэлектрастанцыі на Мінскім моры і Замыслаўская ў Гродзенскай вобласці.

Мне было важна ведаць, хто будзе працаваць і абслугоўваць малыя ГЭС. Усевалад Рыгоравіч лічыць, што тут будзе вельмі прыдатнай вялікая армія меліяратараў-будаўнікоў, якія зараз, асушыўшы болей, чым было неабходна, запаведных тэрыторый Беларусі, не маюць стабільнай працы. У такім жа становішчы і праекціроўшчыкі, якія займаліся гідратэхнічнымі збудаваннямі. І ўвогуле ў рэспубліцы маецца працоўны і інжынерны патэнцыял, каб пачаць гэту сур'ёзную справу і атрымаць аддачу. Але, на жаль, у Міністэрстве энергетыкі рэспублікі гэтыя ідэі не атрымліваюць падтрымкі. У апараце міністэрства прывыклі, што ўсю пагоду робіць вялікая энергетыка. Вядома, 100 тысяч кілават не вырашаюць праблемы забеспячэння энергабалансу беларускай сістэмы. Зараз галоўнае — не толькі забяспечыць энергабаланс, а забяспечыць яго з мінімальнымі расходамі, таму арыентацыя на нетрадыцыйную энергетыку з'яўляецца вельмі важнай.

Не так даўно, у канцы 60-х гадоў, у Беларусі было пабудавана і будавалася 179 ГЭС. Іх агульная магутнасць не перавышала 21 тысячы кілават. Але гэта былі крыніцы самай таннай энергіі. За год яны на той час выпрацоўвалі каля 90 мільёнаў кілават-гадзін электраэнергіі. А цеплавым станцыям для выпрацоўкі такой жа колькасці электраэнергіі было б патрэбна прыкладна 27 тысяч тон мазуты. У пераводзе на сусветныя цэны (каля 40 тысяч рублёў за тону) гэта складзе больш за мільярд рублёў.

На сённяшні дзень захавалася толькі 6 дзеючых ГЭС. Ды і тыя, што працуюць ужо 30—40 гадоў, знаходзяцца не ў лепшым стане: напаўразбураныя будынкі машынных залаў, псуецца і рабуецца абсталяванне.

Мы ўвесь час ганарыліся Мінска-Вілейскай воднай сістэмай. Пры будаўніцтве яе былі зроблены на ўсіх шлюзах спецыяльныя камеры для ўстаноўкі абсталявання. Там, дзе можна было паставіць электраагрэгаты агульнай магутнасцю больш за 1 000 кілават, іх не аказалася. Ужо два дзесяцігоддзі дарэмна спадае, шуміць на шлюзах вада, якая давала 6 мільёны кілават-гадзін электраэнергіі.

На Наваполацкай ТЭЦ вадаспад у Дзвіну складае 17 метраў. Там можна таксама паставіць тры агрэгаты па 500 кілават. І там мы будзем мець дармавую электраэнергію па паўтары тысячы кілават з кожнага агрэгата.

Зараз, калі рэспубліка знаходзіцца ў цісках энергетычнага голаду, паўстала вострая неабходнасць пошуку разнастайных альтэрнатыўных крыніц электраэнергіі. Давядзецца будаваць атамныя электрастанцыі. Але нельга адмаўляцца і ад гідраэлектрастанцый. Найперш неабходна аднавіць разбураныя. Вялікіх сродкаў тут не трэба, бо захаваліся гідразбудаванні і машынныя забудовы. Галоўная праблема — электраабсталяванне, якое раней куплялі за мяжой.

Усевалад Пекеліс паведаміў мне, што ў рамках праграмы энергазберажэння вядуцца работы па ветраэнергетыцы. Летась мелі ўжо першы поспех у гэтай справе. На Заслаўскім канале быў адбудаваны і запушчаны ў эксплуатацыю вятрак, які працуе пры хуткасці ветру 3,5—4 метры ў секунду. Гэты вятрак цікавы тым, што лопасці яго выраблены з клеенай драўніны. Пры наяўнасці фінансавання ўжо сёлета можна было б пачаць серыйную вытворчасць такіх малых ветракоў магутнасцю ад 5 да 10 кілават. Вядома, гэта не надта многа, але, улічваючы, што на электранаграванне ў сельскай мясцовасці і водапад'ём расходуецца да 5 працэнтаў усяе электраэнергіі, якая спажываецца ў рэспубліцы, выкарыстоўваць ветракі было б вельмі эфектыўна.

— Тэрмін біяэнергетыка — не новы, але, Усевалад Рыгоравіч, калі ласка, раскажыце больш падрабязна пра магчымасці біяэнергетыкі ў галіне энергазберажэння.

— Пад біяэнергетыкай трэба разумець комплекс установак, якія выкарыстоўваюць адходы вытворчасці свінафермаў і буйной рагатай жывёлы ды птушкафабрык, устаноўкі па перапрацоўцы бытавога смецця. За мяжой здаўна ўсё гэта выкарыстоўваецца ў шырокіх маштабах. Аднак купляць такія ўстаноўкі мы не можам, таму мусім прыстасоўваць сваё абсталяванне.

Зараз нашы птушкафабрыкі прадаюць птушыны памёт для садаводаў як угнаенне. Але калі гэты памёт перапрацаваць у біяэнергетычных устаноўках, то можна атрымаць пэўную колькасць біягазу, біяэнергетычнага паліва. Пасля такой перапрацоўкі адна тона памёту на сусветным рынку прадаецца за 150 долараў. Гэта сапраўднае "залатое дно".

На вялікі жаль, у гэтай галіне энергазберажэння таксама недастаткова інвестуюцца распрацоўкі.

Я пацікавілася, якія перспектывы развіцця геліяэнергетыкі.

— У рамках праграмы энергазберажэння, — расказвае Усевалад Пекеліс, — вядуцца работы і па выкарыстанню сонечнай энергіі. І першы накірунак прымянення сонечнай энергіі — гэта геліяводанагравальнікі, якія мяркуецца выкарыстоўваць у сельскай мясцовасці на дамах, для абагрэву цяпліц. Такі вопыт ужо маецца. Калі мы ўвесь рэальны патэнцыял нетрадыцыйнай энергетыкі выкарыстаем на працягу бліжэйшых 10 гадоў, то гэта не болей чым 5 працэнтаў ад усяго паліва, якое спажываецца рэспублікай. На першы погляд не ўражвае. Аднак нават у развітых краінах, у прыватнасці, у Германіі, удзельная вага нетрадыцыйнай энергетыкі дасягае 10—12 працэнтаў. Таму для нашай рэспублікі напачатку гэта якраз няблага. А яшчэ 15 працэнтаў можна атрымаць за кошт актыўнага энергазберажэння ў прамысловасці, сельскай гаспадарцы. І тут на першым плане павінна стаяць стварэнне і ўвядзенне ў дзеянне ў рэспубліцы эканамічнага механізму, які скіруе нас у напрамку актыўнага рэсурсазберажэння.

Менавіта гэтыя пытанні будзе вырашаць створаны нядаўна ў Беларусі пазаведамасны орган — Камітэт па энергазберажэнню і энергетычнаму нагляду. Пра тое, якія мэты стаяць перад новастворыным камітэтам і якія задачы ён будзе выконваць, мяркуем расказаць у адным з наступных нумароў газеты.

**Галіна АГАЛАКАВА.**

## З ПЛЫНІ ЖЫЦЦЯ



**Да 1984 года ракетная пляцоўка паблізу пасёлка Шарашова Пружанскага раёна выглядала як звычайны ваенны аб'ект павышанай сакрэтнасці стратэгічнага прызначэння: пільна ахоўвалася, на тэрыторыі панавалі чысціня і парадак.**

**Потым чатыры ракетныя ўстаноўкі старой мадэлі, што базіраваліся тут, былі ліквідаваны па ўказанню Міністэрства абароны СССР. Тэрыторыя амаль у 500 гектараў некалькі разоў пераходзіла з рук у рукі — то іншаму дывізіёну, то ваенным будаўнікам, то батальёну сувязі. Пачалося паступовае разграбленне аб'екта. Да ўсяго, што адбывалася ў гэтым месцы "запаведнага" лесу, не мелі адносін ні былая ЧБВА, ні цяперашняе Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь. Там камандавала Масква. У канцы 1988 года з Генштаба Саюза паступіла распараджэнне перадаць аб'ект мясцовым уладам.**

**У пачатку 1989 года пачаў валодаць "спадчынай" Пружанскі райвыканком. К таму часу звыш дваццаці пабудоў — інтэрнат, сталовая, кацельня, гаражы, аўтазапраўка і гэтак далей — знаходзіліся ўжо ў такім стане, што выканком прыняў рашэнне прадаць астатняе гаспадаркам раёна ў якасці будаўнічых матэрыялаў.**

**Некалькі магутных прасторных ангараў, дзе захоўваліся ракеты і іншае ваеннае абсталяванне, і цяпер можна было б выкарыстаць, прывёўшы іх у парадак. У мясцовай улады і калгасаў сродкаў на гэта, аднак, не хапае. З жадаючымі арандаваць унікальныя памяшканні ці набыць іх Пружанскі выканком гатовы весці перагаворы.**

**Факты, аналагічныя данаму, можна знайсці і ў іншых абласцях рэспублікі. А гэта ж на вецер пускаецца здабытак народа.**

**НА ЗДЫМКАХ: так было; так ёсць.**

**Фота У. ВІТЧАНКІ.**



# У ПОШУКАХ ВЫЙСЦЯ З КРЫЗІСУ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Яшчэ адзін важны аспект, які не павінен ігнаравацца, гэта тое, што ва ўмовах адсутнасці дастатковых аб"ёмаў паліва нацыянальная прыналежнасць тэрміналаў, нафтаправодаў і нафтаперапрацоўчых заводаў з"яўляецца гарантыяй незалежнасці і эканамічнага развіцця краін.

Што тычыцца рэалізацыі праекта БЧНК, то тут падыходы бакоў трохі адрозніваліся адзін ад аднаго. Але гэта і зразумела. Усе прапановы рыхтаваліся асобна і, як здаецца, з пункту гледжання выкарыстоўвання максімальнай выгады для сваёй краіны.

Пасля распаду СССР на тэрыторыі былых рэспублік засталася даволі разгалінаваная сетка нафтаправодаў. На думку беларускай групы (у прыватнасці, канкрэтныя прапановы прагучалі ў дакладзе Станіслава Гусака, намесніка старшыні Аб"яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі), існуе магчымасць замкнуць паўночна-заходні накірунак (г. Гомель) з паўднёвым (г. Крамянчуг). Мяркуецца, што абодва накірункі будуць заканчвацца тэрміналамі ў Вентспілсе і Адэсе. Калектар будзе працаваць у рэверсным рэжыме (мяняць напрамак падачы нафты ў залежнасці ад кан"юнктуры і іншых абставін). Відавочна, што збудаванне такога калектара дало б магчымасць краінам атрымаць дадатковую нафту, захаваць рабочыя месцы, спрыяла б выхаду з энергетычнага крызісу, паменшылася б залежнасць ад Расіі. Па прыкідках Станіслава Гусака, прыблізны кошт праекта каля 380 мільёнаў амерыканскіх долараў.

Вельмі сур"ёзна і дакладна да гэтага пытання падышла дэлегацыя Украіны. Было прапанавана два праекты. Станіслаў Іваніцкі, галоўны інжынер "Укргазнафтапраекта" абгрунтаваў выгаднасць таго, каб перамычка пралягла ўздоўж паўночнай граніцы Украіны ад Крамянчуга да станцыі Кляшчоўка. Тады ў Беларусі, каб не залежаць ад расійскай станцыі ва Унечы, патрэбна пабудаваць невялікую перамычку паміж Мазыром і Гомелем. На ажыццяўленне гэтага праекта (без уліку рэканструкцыі тэрміналаў) патрабуецца ўсяго 113 мільёнаў амерыканскіх долараў.

Прыбалтыйскія ўдзельнікі разглядаюць гэтую праблему з трохі іншага боку. Яны перакананы, што ажыццяўленне такой ідэі рэальна і неабходна. Так, былы саветнік прэм"ер-міністра Літоўскай Рэспублікі па энергетыцы А.Драгінавічус прапануе падысці да вырашэння гэтай праблемы, выкарыстоўваючы вопыт заходнееўрапейскіх краін, дзе ў гэтым накірунку нацiск робіцца спачатку на захаванне энергарэсурсаў, а потым ужо на іх вытворчасць. Гэта зусім новая ідэя лягла і ў аснову літоўскага энергетычнага закону, які знайшоў падтрымку ў свеце. Спадар А.Драгінавічус (дарэчы, ён з"яўляецца кіраўніком групы па распрацоўцы гэтага закону) падкрэсліў, што на абагрэў дамоў у нашых краінах расходуецца цеплаэнергіі ў тры разы больш, чым у скандынаўскіх, дзе кліматычныя ўмовы практычна адны і тыя ж. Ён таксама адзначыў, што ў гэтым накірунку нас чакае вялікая праца. Вышэйзгаданы вопыт не вельмі добра вядомы ў нас, і таму вырашаць гэтую праблему разам, з арыентацыяй на суседа, у лепшым разуменні гэтага слова, заўсёды лягчэй. У такіх выпадках цяжка пераацаніць важнасць падобных сустрэч.

Канферэнцыя насіла навуковы, эканамічны і тэхналагічны характар. Назіралася глыбокае пранікненне ў сутнасць праблемы, гэтаму садзейнічалі выступленні ў дыскусіях спецыялістаў. Было дамоўлена стварыць Міжнацыянальны арганізацыйны камітэт на ўзроўні парламентаў, які займаўся б пытаннямі тэхніка-эканамічнага абгрунтавання. Таксама абмяркоўвалася пытанне стварэння Рэгіянальнага банка развіцця краін Усходняй Еўропы, які ўзяў бы на сябе фінансаванне прапаноўваемага і іншых магчымых праектаў.

Пасля заканчэння працы падзяліцца думкамі аб канферэнцыі я папрасіла Уладзіміра Заблоцкага, намесніка старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета Беларусі па навукова-тэхнічнаму прагрэсу. "Нехта павінен пачынаць размову, і такая размова адбылася. Гэта вельмі важна для Беларусі, — сказаў ён. — Вырашаючы гэта пытанне, мы, безумоўна, павінны станавіцца на дзяржаўную аснову і ўлічваць інтарэсы грамадзян Беларусі. Мы павінны выкарыстоўваць усе магчымасці, якія толькі існуюць. Будуць зроблены захады да ўрада, і спадзяюся, што гэта ідэя не будзе праігнаравана. Заўважу, што паразуменне ў даным накірунку ёсць і з боку Расіі. Але самае галоўнае, што мы павінны зрабіць у бліжэйшы час, — гэта пераводзіць сваю эканоміку на рынкавыя адносіны, а потым ужо ствараць агульны рынак".

**Таіса БАНДАРЭНКА.**

**Першы з"езд беларусаў свету ў апошні дзень сваёй работы прыняў пакет дакументаў, у якіх сканцэнтраваны прапановы і думкі тых, хто прымаў у ім удзел, знайшлі адлюстраванне погляды людзей, заклапочаных далейшым лёсам незалежнай Беларускай дзяржавы. Усяго прынята 9 дакументаў. Некаторыя з іх мы сёння друкуем у "Голасе Радзімы".**

# ЗВАРОТ

## ДА БЕЛАРУСКАГА НАРОДА

Браты і сёстры!

Доўгія і складаныя пуцявіны вялі да паяднання беларускай нацыі, воляю лёсу раскіданай у свеце. Амаль усе еўрапейскія народы ўжо даўно перажылі сваё станаўленне ў якасці нацыянальнага адзінства. Перамогі і страты згуртавалі іх, умацавалі іх сілу і волю ў імкненні да самастойнага жыцця. Беларусы ж усё яшчэ пакутуюць на раздарожжы свайго гістарычнага шляху.

Але надышоў час вырашаць свой лёс. Цяпер альбо ніколі! Беларусь атрымала гістарычны шанц набыць рэальную дзяржаўнасць, самастойнасць, поўны суверэнітэт. І гэты шанц неабходна выкарыстаць.

Мы павінны мабілізаваць усе сілы, каб не толькі адстаяць першыя поступы дэмакратыі, незалежнасці, нацыянальнага адраджэння, але і рушыць далей, да вялікіх, зорных здзяйсненняў — адбудовы агульнага Беларускага Дому. Гэту высокую, наканаваную Богам місію мы здолеем выканаць толькі тады, калі адбудзецца ўсенароднае абуджэнне да свядомага нацыянальнага жыцця, калі вернем сабе гістарычную памяць, якую ў нас адбіралі цэлыя стагоддзі, глыбока ўсвядомім, хто мы ёсць і кім павінны быць у гэтым свеце. Мы можам ажыццявіць гістарычную справядлівасць і назаўсёды замацаваць незалежную Беларусь на карце Еўропы не як геаграфічнае паняцце, а як шанаваную, паўнавартасную дзяржаву беларускага народа і іншых народаў, што здаўна жывуць на нашай зямлі.

Дасягнуць гэтага можна, толькі аб"яднаўшы сілы беларусаў на Бацькаўшчыне і тых яе адданых дзяцей, што жывуць па-за межамі Беларусі, але захавалі ў сваіх сэрцах любоў да яе. Адольваючы ўсе перашкоды і нягоды, мы зможам дайсці да жаданай свабоды, зладзіць цывілізаванае, заможнае і культурнае жыццё для сябе і сваіх нашчадкаў.

ЖЫВЕ НАША БАЦЬКАЎШЧЫНА!
ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

# ЗВАРОТ

## БЕЛАРУСАЎ ЗАМЕЖЖА, УДЗЕЛЬНІКАЎ ПЕРШАГА ЗЬЕЗДУ БЕЛАРУСАЎ СЬВЕТУ

Беларускі Народзе!

Мы, Твае сыны й дочкі, разьнесеныя па цэлым шырокім сьвеце вятрамі нядолі, што напаткала наш край, зьехаліся з Поўначы й Паўдня, з Усходу й Захаду ў сталіцу сувэрэннай Беларускай Дзяржавы — Менск, каб удыхнуць гаючае паветра роднай зямлі, наталіць вочы лагоднымі беларускімі краявідамі, сустрэцца з дарагімі сэрцу сваякамі і суродзічамі, адчуць цеплыню іхных душаў. У лучнасці з Бацькаўшчынай, гэтай жыватворнай духовай крыніцай, тоіцца сакрэт нашага супольнага выжываньня, вытрываласці ды перамогі над усімі цяжкасьцямі й перашкодамі на шляху да свабоды й дабрабыту.

Божай воляй мы дачакаліся часу, калі можам зьязджацца з цэлага сьвету ў цудоўны край свайго паходжаньня, на свае вочы аглядаць яго, адчуваць пульс ягонага жыцьця, разам цешыцца і разам хваляваца ды супольнымі намаганьнямі шукаць выйсьця зь няпростага становішча.

Мы ганарымся і радуемся, што Беларусь узыйшла на шлях нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва. Мы шчасьлівыя, што Бацькаўшчына ізноў сталася арганічнай часткай нашага быту, мрояў, надала большага сэнсу і мэтанакіраванасьці нашым намаганьням. У гэтай супольнасці —зарука таго, што эканамічная і культурная адбудова беларускай дзяржаўнасьці будзе ісьці далей.

Мы заклікаем усіх вас, дарагія Суродзічы, да веры ў Беларусь, да патрыятызму, да дзеяньняў у імя свабоднай дэмакратычнай Беларускай Дзяржавы. Вера ў свой народ, у ягоныя здольнасьці, у лепшую яго будучыню — гэта вялікая стваральная сіла. У гэтым пераканаліся мы, пражыўшы дзесяцігоддзі на чужыне з думкамі пра Родны Край. Вера ў самых сябе, у тое, што з намі Бог, дапаможа нам і цяпер, калі мы разам, супольнымі сіламі выйдзем на шырэйшыя шляхі ў лепшую будучыню.

Жыве Беларусь!

# ЗВАРОТ

## ДА ПАРЛАМЕНТА І ЎРАДА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Мы, удзельнікі Першага з'езда беларусаў свету, бачым асноўную мэту нашага супольнага дзеяння ў кансалідацыі нацыі дзеля духоўнага, дзяржаўнага і эканамічнага адраджэння нашай Бацькаўшчыны. Тыя з нас, хто жыве па-за межамі Беларусі, хацелі б пачуваць сябе неад'емнаю часткаю беларускага народа і ведаць, што Радзіма для ўсіх сваіх дзяцей з'яўляецца роднаю маці. Доўгія гады значная частка беларускай дыяспары была адлучана ад Бацькаўшчыны, і мы спадзяёмся, што гэтыя змрочныя часы незваротна мінулі. Рэспубліка Беларусь як самастойная, цывілізаваная дзяржава павінна стаць апораю і надзеяю для ўсіх беларусаў у свеце, дзе б яны ні жылі. Мы заклікаем дзяржаўныя ўлады Рэспублікі Беларусь, а таксама грамадскія арганізацыі і рухі спрыяць ажыццяўленню гэтай святой справы.

На працягу трохдзённай працы з'езда яго ўдзельнікамі былі выказаны прапановы, просьбы, пажаданні, скіраваныя на вырашэнне праблем беларусаў замежжа па задавальненню іх культурных, жыццёвых і іншых патрэбаў. За кожным словам, выказаным на з'ездзе, стаяць лёсы жывых людзей, нашых суродзічаў. Асабліва ўскладнілася жыццё многіх беларусаў у краінах блізкага замежжа з-за нестабільнасці палітычнай і эканамічнай сітуацыі. Не маюць трывалых сувязей з Радзімаю і беларусы з заходняй дыяспары. Большасць з гэтых пытанняў не можа быць вырашана без удзелу дзяржаўных уладаў Рэспублікі Беларусь, якія сёння павінны несці на сабе абавязак клапаціцца пра краіну і яе народ.

Выказваючы наша агульнае пажаданне, даводзім да ведама парламента і ўрада Рэспублікі Беларусь наступныя канкрэтныя прапановы па ўсталяванню ўсебаковых сувязей з беларусамі замежжа і аказанню дапамогі беларускай дыяспары:

1. Спрыяць дзейнасці грамадскіх арганізацый, якія ладзяць сувязі з беларускім замежжам, стварыць роўныя ўмовы іх падтрымкі з боку дзяржавы.
2. Адкрыць прадстаўніцтвы Рэспублікі Беларусь ва ўсіх краінах, дзе ёсць беларуская дыяспара, пры прызначэнні афіцыйных прадстаўнікоў улічваць меркаванні на гэты конт мясцовай беларускай дыяспары.
3. Выкарыстоўваць асоб з беларускай дыяспары як ганаровых консулаў, віцэ-консулаў і консульскіх агентаў Рэспублікі Беларусь у краінах іх пражывання згодна з Міжнароднай венскай канвенцыяй аб консульскіх зносінах 1963 года.
4. Разглядаць беларускую дыяспару як спрыяльны чыннік для ўладкавання добрых адносін з краінамі, дзе жывуць беларусы; ствараць у іх грамадска-інфармацыйныя цэнтры і гандлёвыя прадстаўніцтвы.
5. У двухбаковых пагадненнях з краінамі, дзе жывуць беларусы, прадугледзець абавязковыя гарантыі абароны іх правоў і задавальнення нацыянальна-культурных патрэб згодна з Хельсінкскімі пагадненнямі і іншымі міжнароднымі дакументамі па правах чалавека.
6. Мэтанакіравана аказваць дапамогу беларусам замежжа ў адкрыцці беларускіх культурна-асветных цэнтраў, рэлігійных храмаў, школ, бібліятэк, музеяў; развіцці перыядычнага друку, радыё- і тэлевяшчання; забяспечыць сістэматычны абмен неабходнай для замежных беларусаў рэтраспектыўнай і бягучай інфармацыяй паміж Беларуссю і краінамі, дзе жывуць беларусы.
7. Разглядаць беларускія грамадскія згуртаванні па-за межамі Беларусі як асяродкі беларускага нацыянальнага жыцця, аказваць ім рознабаковую дапамогу, у тым ліку і матэрыяльную.
8. Забяспечыць магчымасць для беларусаў замежжа падпіскі на перыядычныя і падпісныя выданні, што выходзяць у Беларусі.
9. Пашырыць тэхнічныя магчымасці рэдакцый Беларускай тэлерадыёкампаніі, якія вядуць вяшчанне на беларускае замежжа.
10. Надаваць статус найбольшага эканамічнага спрыяння прадпрымальнікам беларускага паходжання з эміграцыі, якія жадаюць прыняць удзел у вырашэнні эканамічных праблем нашай краіны (пры заключэнні кантрактаў, набыцці маёмасці, стварэнні сумесных прадпрыемстваў на Беларусі і г.д.).
11. Садзейнічаць беларусам замежжа ў атрыманні адукацыі на Беларусі, прымаць іх на вучобу ў навучальныя ўстановы на льготных умовах па хадайніцтву беларускіх суполак замежжа. Ладзіць адукацыйны абмен паміж навучальнымі ўстановамі Беларусі і краін, дзе жывуць беларусы, з удзелам беларусаў замежжа.
12. Выкарыстоўваць усе магчымыя сродкі дзеля падключэння лепшых інтэлектуальных сіл беларускай дыяспары пры вырашэнні праблем духоўнага і эканамічнага адраджэння Бацькаўшчыны. Разглядаць асоб беларускай дыяспары як магчымых дарадчыкаў, кансультантаў і спецыялістаў па адпаведных праблемах ва ўрадавых установах Рэспублікі Беларусь.
13. Распрацаваць і прыняць Закон Рэспублікі Беларусь аб мігрантах і бежанцах, стварыць адпаведную дзяржаўную структуру.
14. Забяспечыць умовы для вяртання на Радзіму асоб беларускай дыяспары (першачарговае перад іншымі перасяленцамі выдзяленне ці продаж зямельных участкаў, беспрацэнтных грашовых пазык, стварэнне іншых матэрыяльных выгод).
15. Прадугледзець спрошчаную працэдуру надання беларускага грамадзянства асобам беларускай дыяспары, якія прыехалі ў краіну на сталае жыхарства.
16. Аднавіць беларускае грамадзянства тым беларусам замежжа, якія мелі яго да прыняцця Закона аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь і не маюць грамадзянства тых краін, дзе яны жывуць зараз.
17. Устанавіць бязвізавы рэжым уезду ў Беларусь для беларусаў блізкага замежжа.
18. Удзяляць асаблівую ўвагу праблемам беларусаў у рэгіёнах спрадвечнага пражывання беларускага этнасу (Віленшчына, Беласточчына, Смаленшчына, Браншчына, паўночная Чарнігаўшчына), якія зараз уваходзяць у склад суседніх краін. Выканаць у адносінах да іх прапановы, выказаныя на Першым з'ездзе беларусаў блізкага замежжа.
19. Міністэрству замежных спраў выкарыстоўваць беларускую лацінку пры афармленні замежных пашпартоў і іншых неабходных дакументаў міжнародных зносін.
20. Падтрымаць ініцыятыву навукова-асветнага Цэнтра імя Ф.Скарыны і выдавецтва Беларускай энцыклапедыі аб выданні энцыклапедычнага даведніка "Беларускае замежжа", стварыць для гэтага ў структуры цэнтра спецыяльны аддзел.
21. Вырашыць пытанне аб рэабілітацыі замежных беларусаў — ахвяраў сталінскіх рэпрэсій і аб выплаце ім адпаведнай кампенсацыі.
22. Заключыць пагадненні аб рэгулярным інфармацыйным абмене з тэлебачаннем Украіны, Літвы, Латвіі, Польшчы, Расіі з улікам патрэб беларускай дыяспары і нацыянальных меншасцей у Беларусі.
23. Аказаць неадкладную дапамогу віленскім беларусам у іх намаганнях па аднаўленню Віленскай беларускай гімназіі і Музея імя І.Луцкевіча.
24. Аказаць падтрымку Згуртаванню беларусаў свету "Бацькаўшчына" ў выданні газеты для беларусаў замежжа.
25. Дзеля забеспячэння патрэб вернікаў як у Беларусі, так і па-за межамі аказаць дапамогу ў справе перакладу і выдання Святога Пісання на беларускай мове.
26 Аказаць дапамогу ў вырашэнні такога важнага пытання для беларусаў на Беласточчыне, як вяртанне праваслаўнай царкве ў Польшчы Супрасльскага Свята-Благавешчанскага манастыра згодна з воляю фундатараў яго залажэння.

Удзельнікі з'езда даводзяць да ведама парламента і ўрада думку пераважнай большасці ўдзельнікаў з'езда аб неабходнасці вырашэння наступных пытанняў, якія маюць агульнанацыянальнае значэнне:

— абвясціць дзяржаўным святам 25 Сакавіка — дзень абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі,

— спыніць выкарыстанне гімна былой БССР у якасці дзяржаўнага гімна Рэспублікі Беларусь, прыспешыць зацвярджэнне новага гімна, які павінен адпавядаць нацыянальным ідэалам беларускага народа,

— вярнуць сталіцы Рэспублікі Беларусь г. Мінску яго гістарычную назву — Менск.

# ЗАЯВА

## ЎДЗЕЛЬНІКАЎ ПЕРШАГА З"ЕЗДА БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ ПА ВАЙСКОВАМУ ПЫТАННЮ

З"езд выказвае свой вялікі неспакой сітуацыяй, якая склалася ў войску незалежнай Беларусі — аднаго з найважнейшых дзяржаўных інстытутаў, без якога, як вынікае з гістарычнага вопыту нашага і іншых народаў, немагчыма гарантаваць самое існаванне дзяржавы.

З"езд адзначае, што Беларусь, утрымліваючы за свой кошт непамерна велізарную збройную сілу, дагэтуль не мае надзейнага, адданага справе абароны беларускай дзяржаўнасці войска. У тых вайсковых адзінках, якія зараз называюць Узброенымі Сіламі Беларусі, пануюць негатыўныя пагардлівыя адносіны да яе незалежнасці і нацыянальнага адраджэння. Большасць вайскоўцаў варожа ставяцца да беларускай мовы, не спыняюцца спробы фальсіфікацыі беларускай гісторыі, асабліва тых яе перыядаў, якія звязаны з войнамі супраць усходняга дэспатызму. Дагэтуль у вайсковай вопратцы ўжываецца камуністычная імперская сімволіка, у войску не спыняецца і нават пашыраецца пераслед патрыятычна настроеных вайскоўцаў. Шалёнаму цкаванню падвяргаюцца сапраўдныя патрыёты Беларусі, да канца адданыя ідэі беларускай незалежнасці і Адраджэння — сябры Беларускага згуртавання вайскоўцаў, якія некалі ва ўмовах супрацьдзеяння з боку асоб, зараз кіруючых Беларускімі Узброенымі сіламі, распрацавалі канцэпцыю стварэння Беларускага войска і шмат зрабілі для яе прапаганды і рэалізацыі. Кіраўніцтва Міністэрства абароны перашкаджае пераводу на Радзіму афіцэраў-беларусаў. Нізкія маральны стан і дысцыпліна ў войску абумоўлены няздольнасцю вайсковага кіраўніцтва наладзіць выхаваўчую працу на грунце беларускага патрыятызму. З"езд лічыць, што асноўнай прычынай захавання такога становішча ў войску з"яўляецца ўрадавая вайсковая палітыка, пры якой на ключавыя пасады ва Узброеных Сілах прызначаюцца асобы, якія адмоўна ставяцца да незалежнасці Беларусі, яе адраджэння і свядома перашкаджаюць стварэнню сапраўды Беларускага войска.

З"езд патрабуе ад урада Беларусі рашучых захадаў па неадкладнай беларусізацыі войска і навядзенні парадку ў ім. З"езд таксама патрабуе аднаўлення на вайсковай службе падпалкоўніка Міколы Статкевіча і іншых адстаўнікоў БЗВ, пакарання вінаўных у іх незаконным звальненні.

# ДУМКІ, ВЫКАЗАНЫЯ ДЭЛЕГАТАМІ ПЕРШАГА З'ЕЗДА БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ

*Закончыўся Першы з'езд беларусаў свету, але дэлегаты яго — землякі з далёкага і блізкага замежжа — не адразу раз'ехаліся па дамах. Многія накіраваліся ў вёскі да сваякоў, некаторыя засталіся ў Мінску, каб пазнаёміцца з беларускай сталіцай і яе парадкамі, сустрэцца з сябрамі, наведаць рэдакцыі газет і часопісаў. Чаканыя і прыемна нечаканыя госці былі на мінулым тыдні і ў "Голасе Радзімы". Яны прыходзілі да нас, каб падзякаваць за газету, выказаць свае пажаданні, дзяліліся ўражаннямі пра з'езд. Інтэрв'ю з імі, а таксама з іншымі дэлегатамі мы і друкуем на гэтай старонцы.*

## НАРЭШЦЕ НАС ПРЫЗНАЛІ

**Мікола СЕНЬКА** (Англія).

**— Што вы лічыце галоўным здабыткам Першага з'езда беларусаў свету, Спадар Сенька?**

— Тое, што нас, эмігрантаў, нарэшце прызналі, заўважылі, што мы ёсць. Тое, аб чым мы столькі гадоў, бадай, цэлае жыццё марылі, здзейснілася. Што ж тычыцца дзяржаўнасці і незалежнасці Беларусі, то тут яшчэ шмат пытанняў і няпэўнасці. Бянтэжыць нас, што і вуліцы, і ўсе надпісы ў беларускай сталіцы зроблены па-руску. На станцыі ў Мінску, дзе купляў білет, калі загаварыў да касіркі па-беларуску, не змог з ёю паразумецца, ёй спатрэбіўся перакладчык. Гэта, каб ангелец не дагаварыўся ў сваёй дзяржаве па-ангельску, такога немагчыма ўявіць. Няма больш такога народа, каб адрокся ад сваёй мовы, толькі беларусы.

**— А адкуль вы родам?**

— Са Стаўбцоўшчыны, з Новага Свержаня. Два гады назад я ўжо быў на Бацькаўшчыне. Тады мне нікуды не дазволілі ад'ехаць з вёскі, нават у Мікалаеўшчыну, хоць гэта зусім побач. Цяпер значна больш вольнасці. І гэта цешыць.

**— Вы даўні чытач "Голасу Радзімы"?**

— Так, даўно ведаю газету, але раней нам было нецікава яе чытаць. Не тое ў апошнія гады. Усе чытаюць яе. Цікавыя гістарычныя, навуковыя артыкулы, усё, што пішаце пра Беларусь. Будзем рады, калі яна і далей будзе да нас прыходзіць.

## НАВЯЗВАЦЬ БОЛЬШ ЦЕСНЫЯ СУВЯЗІ

**Аляксей КАРПЮК** (Польшча, Беласточчына).

**— Як вы думаеце, спадар Карпюк, ці будзе гэты з'езд мець нейкае практычнае значэнне?**

— Так, думаю будзе. Я браў удзел у тым "круглым стале", дзе гаварылася пра знешнія сувязі Беларусі. Я чуў, як людзі, што займаюцца бізнесам, прасілі, каб Беларусь адкрылася, дала больш аб сабе інфармацыі. Беларусы з Канады хацелі б наладзіць гаспадарчыя сувязі, але гэта цяжка пакуль, бо краіны мала маюць сувязей адна з адной. Добра было б, каб Беларусь адкрывала свае прадстаўніцтвы і консульствы ў розных краінах свету. Беларусы з блізкага замежжа прасілі, каб да іх прыязджалі мастацкія калектывы адсюль, кніжак просяць беларускіх. А як усё на практыцы атрымаецца, ці дазволяць унутраныя справы выйсці ў свет, навязаць сувязі з людзьмі... Час пакажа.

## КРОК ДА КАНСАЛІДАЦЫІ

**Лявон ЛУЦКЕВІЧ** (Вільня).

**— У якім "круглым стале" вы прымалі ўдзел, Лявон Антонавіч?**

— У тым, дзе абмяркоўваліся пытанні дзяржаўнасці. Скажу вам, што не вельмі мне спадабалася, таму што кожны чалавек хацеў выказацца, сказаць пра тое, што ў яго набалела, а па сутнасці, па тэме "стала" канкрэтных прапаноў, што зрабіць, каб Беларусь стала сапраўды незалежнай, такіх прапаноў было мала.

Быў я і на сустрэчы ў БНФ. Надта хораша яны прынялі ў сваёй новай рэзідэнцыі. І ў згуртаванні жанчын я пабываў, і на мона-спектаклі Галіны Дзягілевай. Столькі імпрэзаў розных ладзілася, і ўсюды хацелася паспець.

**— А ўвогуле, як вы ацэньваеце Першы з'езд беларусаў свету?**

— Мы не можам адразу чакаць ад з'езда радыкальных перамен, але гэта рэальны крок да кансалідацыі беларусаў усяго свету, бо яны ўсё ж даволі раз'яднаныя паміж сабой. І ў агульным рэчышчы тых перамен, што ў Беларусі чакаюцца, гэта падзея будзе мець канкрэтнае значэнне. Не сакрэт, што ўсе мы чакаем радыкальных перамен, якія мусяць быць праведзены цывілізаваным спосабам, каб, барані Божа, не адбывалася тут такое, як у Грузіі ці Азербайджане. У Беларусі ёсць усе падставы спадзявацца, што яе міне такая доля. У мяне настрой аптымістычны пасля з'езда.



Фота В. СТАВЕРА.

## ЗМАГЛІ СВАБОДНА САБРАЦЦА

**Баляслаў АЎГУСЦІНОВІЧ** (Германія).

**— Якія вашы ўражанні пасля з'езда?**

— Вельмі, вельмі добрыя. І не толькі ў мяне. Так думаюць і мае новыя знаёмыя з Канады, Аўстраліі. Усе такія задаволеныя, што надышоў час, калі беларусы змаглі свабодна сабрацца і абмеркаваць свае справы.

## ШТО МАЕМ, НЕ ЗАХОЎВАЕМ

**Пятро КАПЧЫК** (Украіна).

**— Што прывяло вас да нас у рэдакцыю?**

— Прыйшоў падзяліцца ўражаннямі пра работу Першага з'езда беларусаў свету. Хацелася падзякаваць за "Голас Радзімы", які ўсім нам, я ў гэтым пераканаўся тут яшчэ больш, вельмі-вельмі патрэбны.

**— Была пра газету нейкая гаворка паміж дэлегатамі?**

— Так. На "круглым стале" па дыяспары выступалі дэлегаты. І асабліва спадарыня Журавель з Чыкага, жвавая такая кабета, і вершы чытала, прысвечаныя Сяргею Панізніку. Дык вось яна сказала, што ў апошнія год-два газету не пазнаць, зараз пішаце тое, што ёсць на самай справе. Я гутарыў з многімі, бо я асоба зацікаўленая: пісаў і буду пісаць у "Голас Радзімы", пра гэта мяне прасілі і суайчыннікі. І чытаць буду. Бо хоць і жыву ў блізкім замежжы, але, лічу, за мяжой і кожны нумар газеты чакаю.

**— Якія матэрыялы найбольш цікавяць і блізкае, і далёкае замежжа?**

— Адраджэнне, гісторыя Беларусі. Па гісторыі як мага больш артыкулаў. Выйшла кніжка "100 пытанняў, 100 адказаў з гісторыі Беларусі". Яе ўмомант раскупілі, а каму не дасталася, вельмі шкадавалі. Нарысы пра цікавых людзей друкуйце, пра мясціны, адкуль людзі выехалі.

**— А сучаснае жыццё на Беларусі таксама цікавіць?**

— Так, хвалюе сучаснае становішча Беларусі, бо яно вельмі складанае і не відаць, каб штосьці да лепшага ішло. Карацей кажучы, газета вельмі патрэбная. І такая ж гаворка атрымалася і пра таварыства "Радзіма". Некаторыя сёння на першае месца ставяць "Бацькаўшчыну", бо яна не фінансуецца дзяржавай. Колькі людзей, столькі думак. Але большасць пагадзілася, што абсалютна не пашкодзіць беларусам свету мець і "Бацькаўшчыну", і "Радзіму". Добра было б, каб і яшчэ ўзнікла некалькі падобных таварыстваў, бо кожнае магло б аказаць нейкую дапамогу. Кастусь Майсеня з Гайнаўкі гаварыў, што ні ў якім разе нельга аб'ядноўваць "Бацькаўшчыну" і "Радзіму". Музей у Гайнаўцы пачынаў будавацца з дапамогай "Радзімы", потым падключылася і "Бацькаўшчына".

**— Вы доўга жывяце за межамі Беларусі, а так дасканала ведаеце родную мову, пішаце на ёй. Як вам гэта ўдалося?**

— Я родам з Пухавіцкага раёна. Вучыўся ў школе, спачатку ў беларускай, якую потым і яўна, і падпольна паступова рабілі рускай. Але не буду перабольшваць свае перажыванні. Мяне гэта русіфікацыя тады не надта непакоіла. Калі выехаў за межы Беларусі, якаясь туга па Радзіме апанавала, і я больш пачаў хінуцца да ўсяго беларускага. Слухаю штодня беларускае радыё, выпісваю з Бацькаўшчыны амаль усе беларускамоўныя газеты і часопісы. Маю вялікую бібліятэку, дзе 70 працэнтаў кніг — беларускія. А цяпер пасля з'езда думаем з беларусамі, што жывуць там, дзе і я, стварыць сваю суполку. Адным словам, матчына мова стала цяпер для мяне арганічнай і неабходнай. Тое, што маем, не захоўваем, згубіўшы, плачам. Я не плачу, бо нічога не згубіў.

**— Якія думкі ў вас былі перад з'ездам?**

— Розныя. Я чытаў прэсу, усё, што пісалі пра маючы адбыцца з'езд. Некаторыя артыкулы проста палохалі, прымушаючы думаць, ехаць ці не. Пісалі, што з'едуцца ў Мінск былыя паліцаі з усяго свету, што нават БНФ выступіў супраць з'езда. І КДБ, як у старыя часы, нас палохалі. Чым бліжэй падыходзіў з'езд, тым больш я хваляваўся. Аднак у Мінску нас ніхто не сустракаў і не сачыў за намі. Калі прыехаў у гасцініцу, усе сумненні былі адкінуты. Нас у "Беларусі" чакалі, размясцілі зручна, накармілі абедам і павезлі на экскурсію.

**— А што вы думаеце пра беларусаў, з якімі сустракаліся і ў гасцініцы, і на з'ездзе?**

— У мяне цяпер вельмі многа сяброў у розных канцах свету. Усе пераpзнаёміліся адзін з адным. У большасці сваёй гэта цудоўныя людзі, патрыёты Бацькаўшчыны, якім неабыякавы яе лёс. Хаця былі і такія, што прыехалі ў Мінск як на прагулку, каб адпачыць і пабавіць час.

**— Ці будзе з'езд, на вашу думку, мець нейкія станоўчыя практычныя вынікі?**

— Упэўнены, што будзе мець станоўчыя вынікі. Прыняты Зварот да беларускага народа, ён будзе надрукаваны ў газетах. Дыяспара штосьці патрабуе, штосьці прапануе ўраду. Павінен жа ён прыслухацца да яе голасу, бо валтузня паміж уласнымі палітыкамі — адна справа, а думка збоку... Я ўпэўнены, што поспех будзе мець тая дзяржава, якая вядзе палітыку гібкую, дыпламатычную.

**— З'езд праводзіўся як аб'яднальны. І, сапраўды, тых, хто на ім прысутнічаў, ён аб'яднаў. Аднак мэты ставіліся, здаецца, больш шырокія: аб'яднанне ўсіх беларусаў. Ці дасягнута гэта мэта?**

— Пажывём—пабачым. Думаю, хутка ў прэсе з'явяцца лісты, водгукі, яны засведчаць, які вынік мае форум. Асабіста мне здаецца, што мэта дасягнута, бо я бачыў, як свяціліся радасцю твары людзей, бачыў іх шчаслівыя ўсмешкі, яны спадзяваліся, што яшчэ могуць прынесці карысць Радзіме.

**Гутарыла з дэлегатамі Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

---

**Лідзія САВІК**

# ВЯРТАННЕ

### ЖЫЦЦЯПІС БАРЫСА УЛАДЗІМІРАВІЧА КІТА

Але найбольш Барыс Уладзіміравіч захоплены апошнім часам ідэяй стварэння на Беларусі нацыянальнага універсітэта. Ён распрацаваў ужо нават прыкладную праграму па ўзору славутых еўрапейскіх і амерыканскіх універсітэтаў. На яго думку, БНУ павінен мець, галоўным чынам, гуманітарны напрамак (факультэты:

1. Беларусістыкі — мова, літаратура, гісторыя, археалогія Беларусі.
2. Славістыкі і заходнееўрапейскай гуманістыкі.
3. Агульнай гісторыі, палітычных навук, дыпламатыі.
4. Эканомікі і камерцыі — што вымагаецца сучасным нацыянальным адраджэннем), з цэнтрам у Мінску і філіямі ва ўсіх абласцях Беларусі і найперш у Наваградку і Маладзечне — гарадах, адкуль пачынаўся шлях Барыса Кіта ў вялікае жыццё. Ён увесь цяпер у пошуках спонсараў для ажыццяўлення гэтай патрыятычнай ідэі, разаслаў больш за 100 лістоў у розныя фірмы, арганізацыі, пабываў у Вашынгтоне. І ёсць ужо першыя водгукі на гэту добрую справу.

Захоплены яго ідэяй і на Беларусі — творчая, навуковая інтэлігенцыя, выкладчыкі ВНУ горача падтрымліваюць яго ў такіх пачынаннях. Створаны камітэт падтрымкі і рэалізацыі ідэй Барыса Кіта, мяркуецца ператварыць Мінскі інстытут культуры ў Беларускі нацыянальны універсітэт. Дарэчы, 6 красавіка 1993 года ў гэтым інстытуце адбылася ўрачыстасць, прысвечаная знаёмству студэнтаў і выкладчыкаў з жыццём і дзейнасцю Барыса Уладзіміравіча і адначасова з нагоды дня нараджэння вучонага. Быў прыняты прывітальны адрас са словамі ўдзячнасці: "...там, за мяжою, Вы ўсёй душою з намі, дапамагаеце роднай Беларусі і словам і справай". Запіс гэтай урачыстасці, юбілейны адрас з віншаваннямі былі перададзены Барысу Кіту ў Франкфурт.

На малой радзіме Барыса Уладзіміравіча ў Карэлічах 5—6 чэрвеня 1993 года праходзілі першыя Карэліцкія краязнаўчыя чытанні, арганізаваныя карэліцкім райвыканкомам і Нацыянальным навукова-асветным цэнтрам імя Ф. Скарыны, дзе былі прачытаны цікавыя даклады з гісторыі карэліцкага краю, прагучалі паведамленні, расказы пра жыццё і дзейнасць славутых людзей, якіх узгадавала гэтая шчодрая зямля. Барыс Кіт — яе жывая гісторыя, сучаснік і легенда для тых шматлікіх землякоў, якія прысутнічалі ў зале і якія жылі побач з яго бацькамі, блізкімі людзьмі, маглі бачыць родную сястру Барыса Уладзіміравіча — Ірыну Уладзіміраўну — прыгожую, сціплую жанчыну, незвычайна знешне падобную да старэйшага брата. Яна прыйшла паслухаць, што скажуць пра яго людзі, згадзілася паказаць месца, дзе калісьці стаяла хата Кітоў у Агародніках, якія цяпер сталі адной з карэліцкіх вуліц. Ціхая, вясковая ўскраіна, зеляніна садоў, агародаў, поплаў за імі, блакіт возера, недалёкі лес. На месцы старой хаты стаіць прыгожы, дагледжаны дамок, жывуць чужыя людзі. Барыс Уладзіміравіч, калі быў тут улетку 1992 года, нічога не пазнаў на сваім родным паселішчы. І толькі высокая, стромкая груша і кашлатая яблыня прыветна прашумелі яму сваім лісцем у падзяку за тое, што некалі пасадзіў іх на бацькоўскай зямлі, куды ён вярнуўся з далёкіх дарог і ўжо назаўсёды...

**Заканчэнне.**
**Пачатак у №№ 22—29.**

## ПА СТАРОНКАХ НОВАЙ КНІГІ Раісы БАРАВІКОВАЙ

# САМОТНАЯ Ў "ЗАЛЮСТЭРКАВЫМ" СВЕЦЕ

**Бы сонечны зайчык,
свавольны і шустры,
Імгненне аслепіць дыханнем тваім...
І профілі нашы сустрэнуцца ў люстры
І назаўсёды схаваюцца ў ім.**

Люстэрка, увогуле, рэч вельмі загадкавая. Мне заўсёды падавалася, што калі ўсе кладуцца спаць, у ім адбіваецца зусім не тое, што знаходзіцца насупраць, а нешта зусім іншае — людзі, якія некалі праходзілі міма і якіх зараз можа ўжо няма, міжволі кімсьці разыгранае перад ім жыццё, чыёсьці гора, радасць, любоў. Не ведаю, чаму, але заўсёды думалася, што люстэрка — гэта той прадмет, які можа жыць сваім самастойным жыццём і ўносіць свае карэктывы ў твары і падзеі.

**Здаецца, выблісснуць вось-вось
з яго глыбіняў таямнічых
два ледзь прыкметныя аблічччы:
маё і дзіўнага кагось...**

І толькі сапраўдным паэтам Бог дае магчымасць часам зазіраць за непранікальную паверхню халоднага шкла. Можа, менавіта там яны знаходзяць словы, якія прымушаюць нас плакаць і смяяцца, углядацца ва ўласны твар і заўважаць у штодзённым звычным адлюстраванні нешта новае.

Але што такое ў рэшце рэшт для жанчыны люстэрка? Вораг? Сябар? Ці кат, чыё марудлае катаванне цягнецца ўсё жыццё? Напэўна, гэтае пытанне займала не толькі мяне, інакш не з"явілася б кніга, якую я зараз трымаю ў руках, "Люстэрка для самотнай" Раісы Баравіковай.

"Дваім лепей, чым аднаму", — напісана ў эпіграфе да першай часткі кнігі. Скажаце — проста? Так, але ж і геніяльна, і не толькі таму, што сказаў гэта Эклізіяст, а проста таму, што дваім лепей, чым аднаму... А паэт заўсёды адчувае адзіноту больш востра, чым звычайны чалавек, таму што ён адзінокі нават тады, калі побач нехта ёсць.

**Пераплятуцца гукі "дж" і "дз"
дзівоснай нашай мовы ў песнях лета,
і стракaзе свавольнай на вадзе
так схочацца ў адной з іх быць апетай.**

Пераплятаюцца гукі, нібы нехта тчэ дзіўныя ўзоры з сонечных зайчыкаў і блікаў на рачной вадзе, ці нечыя пальцы ціхенька і пяшчотна кранаюць струны цымбалаў, можа старая і забытая песня гучыць, а можа новая нараджаецца...

**Заўваж, дрыжыць рука ў тваёй руцэ,
цень ад вярбы на цёплым парапеце, —
і ў гэтых сказах лёгенькія "ц",
нібы званочкі ў нашым першым леце.**

Варожыць, рассыпае жанчына гукі са шчодрай далоні сваёй, нібы птушак корміць, а зярняткі-словы нейкім дзіўным чынам не бязладна сыплюцца на белы ліст, а складваюцца ў прыгожыя сказы і стройныя радкі. Жанчына павольна падымае вочы на сваё адлюстраванне ў люстэрку і ціха ўсміхаецца. І не пытайцеся, чаму, усё роўна не скажа, бо любая жанчына — ведзьма, а што ўжо гаварыць пра паэтэсу! А між іншым, ведзьма — гэта тая, якая ведае, ведае больш за іншых, таму што вастрэй бачыць, глыбей адчувае, танчэй чуе. Абвостраная інтуіцыя дапамагае лягчэй і прасцей пранікаць у сутнасць рэчаў, з"яў і характараў, бачыць сапраўдны сэнс учынкаў і слоў. За гэта вядзьмарак, дарэчы, заўсёды баяліся і не любілі, асуджалі на адзіноту. І сапраўды, каму патрэбна жанчына, якая бачыць цябе наскрозь, перад якой не сфальшывіш, якой нельга салгаць?

**Калі адчай, хоць закрычы,
калі туга па Вас даймае,
тады мне дамавік іграе,
сама не ведаю, на чым.**

**Бліскучы клавіш ці струна
пад яго пальчыкам старанна
ўсю ноч, ад вечара да рання,
вызвоньвае — адна... адна...**

Як несправядліва ўсё ж такі ўладжана жыццё і мастацтва. Каб забіліся хутчэй сэрцы чытачоў, павінна амаль спыніцца сэрца паэта, задавальненне і захапленне чытачоў — гэта нястрымны боль творцы, які пераліўся на паперу праз край спакутаванай душы, якая ўжо не мела сіл цярпець і трымаць яго ў сабе.

Гэта кніга — пра жанчыну, і не важна, як яе завуць — Самотная ці Барбара Радзівіл, дзе яна жыве — у старажытным Кракаве ці сучасным Мінску, сёння ці шмат стагоддзяў таму, у яе аднолькава чыстая і чулая душа, якая арганічна не можа пераносіць здрады, абразы, несумленнасці.

А яшчэ гэтая кніга — пра любоў, любоў, спрадвечна асуджаную на няўдачу, бо гераіні проста неўласцівыя ні хітрыкі, ні хлусня, яна не ўмее абараняць сваё каханне істэрыкамі і капрызамі і занадта высакародная, каб помсціць. Гэта любоў самаадданая, шчырая, ахвяравальная і прыўкрасная, тая самая, пра якую марыць кожны мужчына, а сутыкнуўшыся з ёю, бяжыць прэч, як ад агню, бо пачуццё такой сілы нельга проста прымаць, на яго трэба адказваць раўназначным...

"Любоў пакрывае ўсе грахі", — сказаў наймудрэйшы цар Саламон. Нібы рэхам гучаць словы паэтэсы: "Усё апраўдала між намі... каханне". Але ж гэта — дараванне, бо галоўная трагедыя ці канфлікт кнігі менавіта ў супярэчнасці паміж тым, што хоча і можа даць каханаму жанчына, і яго няздольнасцю адказаць на гэтыя пачуцці:

**Я вечнасць падарыць табе змагла,
узяўшы вобраз твой у музыку работы,
ты ж падары хоць трошачкі пяшчоты,
хоць дзень адзін з усмешак і цяпла.**

Вечнасць — на дзень. Абмен, годны паэта. Ці закаханай.

І яшчэ адна тэма працінае гэты зборнік... Усе мы часам адчуваем пераход з адной узроставай катэгорыі ў іншую. Прачнуўшыся аднойчы халоднай лютаўскай раніцай і гледзячы на знаёмы ўзор старых фіранак, раптам да болю ясна разумееш, "што неўзаметку гады Афеліі прайшлі". Гэтае адкрыццё, нягледзячы на яго даўнюю відавочнасць, настолькі ашаламляе, што на нейкі час падаецца, быццам мінула не толькі маладосць, а і ўсё жыццё. Але пачынаецца дзень, поўны клопатаў і турбот. Мы спяшаемся на работу, вырашаем бясконцыя праблемы і не маем нават мінуты, каб асэнсаваць сваё адкрыццё. І толькі вечарам, калі, стаміўшыся, у рэшце рэшт падаеш на ложак, ранішні боль раптам працінае ізноў... Але ненадоўга, бо стома бярэ сваё, і ты засынаеш. А наступнай раніцай сумная думка перастае быць адкрыццём, мы пачынаем прывыкаць да яе. Вось так праходзіць маладосць.

**На зары толькі дрэў трапятанне,
а начамі — завеі выццё...
І не знаю, ці то развітанне,
ці на новым дыханні жыццё.**

"Аднойчы вам падаецца, што ўсё скончылася, гэта і будзе сапраўдным пачаткам", — сказаў нехта. Можа, так яно і ёсць, тым больш, што сама паэтэса ў гэтай жа кнізе дае добрую параду:

**...дзесяцігоддзі можна скінуць з вагаў,
хаваючы ў сабе кароткі міг.**

Уявіць сабе сёння паэтычны зборнік без вершаў сацыяльнага гучання немагчыма. У гэтай кнізе іх мала, ды і ад палітыкі ў іх, бадай, нічога. Хутчэй, гэта вершы чалавека, які стаміўся ад палітыкі, ад бязглуздзіцы і мітусні нашага сённяшняга жыцця.

**І хто ж бы падумаць мог:
пабудавалі не дом, а астрог!**

Ці:

**... ёсць пакрычаць з кім
з высокай трыбуны
і няма з кім пагаварыць.**

Ці:

**Вось напасць, —
адна зямля і мова,
а душа далёка ад душы.**

Бясконца далёкія нашы душы... Дзіўная рэч: усе пакутуюць ад адзіноты, але ніхто нікому не патрэбны. Мабыць, гэта таксама прыкмета часу?..

А на развітанне хацелася б сказаць Самотнай: паверце, сапраўдныя паэты не старэюць.

— А як жа люстэрка? — усміхнецца Самотная.

— Ах, паважаная, мы ж з вамі жанчыны, і за жыццё наша доўгае і невясёлае добра ўжо разгледзелі і вывучылі ўсё, што можна было там убачыць. А таму схавайце сваё люстэрка, а самі глядзіцеся толькі ў тое, што ў вас у душы. А там... там мы заўсёды маладыя, дваццацігадовыя, такія, якімі сябе ведаем мы самі, якія мы ёсць на самай справе. Паверце мне, Самотная, гэта адзінае люстэрка, якому можна верыць і якое ніколі не схлусіць.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

### ПРА ТОЕ, ЯК ФРАНЦУЗЫ ЗДЫМАЛІ Ў НАС КІНО

# "Я — ІВАН, ТЫ — АБРАМ"

Фільм французскага рэжысёра Іаланды Заберман "Я — Іван, ты — Абрам" атрымаў два прызы на Канскім фестывалі. Адзін з іх — спецыяльны прыз "Маска Мадыльяні". Стужка была адзначана таксама на фестывалі кінематаграфістаў у Іерусаліме. Апошняя ўзнагарода фільма — Гран-пры XVIII Маскоўскага міжнароднага кінафестывалю. Журналісты, якія асвятлялі працу Канскага і Маскоўскага фестываляў, чамусьці амаль не гаварылі, што да стварэння фільма мелі непасрэднае дачыненне кінематаграфісты Расіі і Беларусі. Паколькі паглядзець карціну ў Мінску можна будзе не раней, чым увосень, паспрабуем хаця б расказаць пра фільм. Дзея яго адбываецца ў Заходняй Беларусі ў 30-я гады. Многія з герояў — беларускія яўрэі, якія ў фільме, дарэчы, размаўляюць паміж сабой на ідзіш.

Здымкі фільма былі фінансаваны беларускім акцыянерным таварыствам "ВІТТ", прэзідэнтам якога з'яўляецца Валерый Мацулевіч. Гэта не першы ўклад фірмы ў справу культуры. "ВІТТ" быў спонсарам Фестывалю жаночага кіно, што праходзіў нядаўна ў Мінску, фінансаваў некаторыя мастацкія беларускія стужкі. Дарэчы, прэтэндэнтамі на права спансіраваць карціну былі і іншыя фірмы. Аднак яны адышлі паціху ўбок. Не кожнай па кішэні было выдаткаваць 60 мільёнаў рублёў на фільм. Па цэнах 1992 года гэта былі вельмі дарагія здымкі. Для параўнання: намеснік дырэктара фільма Уладзімір Васілевіч, з якім я сустрэлася, прывёў лічбу 1,7 мільёна рублёў. Столькі прыкладна каштавалі здымкі фільма, над якім ён працаваў літаральна перад здымкамі "Я — Іван, ты — Абрам".

Творчая група, што працавала над фільмам, складалася ў асноўным з французскіх кінематаграфістаў. Праўда, мастак-пастаноўшчык і яго асістэнт былі з Санкт-Пецярбурга (А. Загоскін і А. Сафронаў). З беларускага боку ўдзельнічалі дублёры — другі рэжысёр, аператар, гукааператар. Дырэктарам фільма быў Ігар Поршнеў. Беларусы выконвалі і тэхнічную працу на здымках — працавалі асвятляльнікамі, вадзіцелямі і г.д.

Беларускія акцёры ігралі толькі ў масавых сцэнах, якія здымаліся на Беларусі (здымкі праходзілі яшчэ і на Украіне). Акрамя адзінай французскай актрысы, акцёры былі з Расіі, дарэчы, вельмі знакамітыя: Зіновій Герт, Алег Янкоўскі, Ралан Быкаў, іншыя.

Так што думкі, выказаныя ў нашай прэсе аб тым, што беларускае кіно "прасекла акно ў кінематаграфічную Еўропу", можна прыняць з вялікімі агаворкамі, калі можна прыняць наогул. Хутчэй Еўропа звярнула на Беларусь увагу, дзякуючы ініцыятыве і грашам фірмы "ВІТТ". Вось што думае наконт прычыны выбару Беларусі для здымак французскага фільма Уладзімір Васілевіч:

— У Францыі немагчыма было знайсці месца, якое хаця б аддалена нагадвала маленькі беларускі гарадок 30-х гадоў. Нам прыйшлося б будаваць драўляныя хаты і ўсё іншае. А гэта вельмі дорага. На Беларусі ж здымаць было значна танней. Ведаеце, у Францыі за тое, што сарваў жолуд з дрэва, трэба плаціць. У нас у час здымак можна дазволіць сабе не тое, што жолуд сарваць, але і дрэва паваліць. Калі трэба, можна і плошчу злёгку разабраць...

— А мясцовыя ўлады не абураюцца?

— Бываюць, канешне, праблемы, але ў рэшце рэшт усё вырашаецца спакойна. У нас усё прасцей...

— Як доўга ішла праца над фільмам?

— Значны час адняла падрыхтоўка да здымак. Французскія кінематаграфісты некалькі разоў прыязджалі на Беларусь, ездзілі па Украіне, Прыбалтыцы. Шукалі патрэбных акцёраў і краявіды. Здымкі пачаліся 14 чэрвеня 1992 года і ішлі строга па плану. Дзесьці 22 верасня быў апошні здымачны дзень. Я кажу дзесьці, бо не памятаю дакладна. Здымкі ж не затрымаліся ні на адзін дзень. Такая дакладнасць у працы — стыль французаў. Кожная іх стужка страхуецца. І здымкі могуць затрымацца толькі па ўважлівай прычыне (хвароба акцёра, напрыклад).

— Праца ў спонсарскім фільме з замежнымі калегамі мела, мабыць, асаблівы стыль, умовы?

— Умовы былі даволі жорсткія. Мы працавалі па дамоўленасці 6 дзён у тыдзень па 10 гадзін. Але паколькі на фільм былі выдаткаваны немалыя грошы, творчая група была большай за звычайную для нас у два разы. І зарплата ў людзей была большай, чым пры працы над студыйным фільмам. Кожны спецыяліст дубліраваўся, каб пазбегнуць нечаканасцей. У нас такога, безумоўна, няма. На нашых карцінах працуе, напрыклад, 1 касцюмер. Там іх было 4. У кожнага, каму для працы была неабходна машына, яна была. Мабыць, менавіта так і трэба працаваць. Але нашы ўмовы робяць такі стыль работы над стужкамі немагчымым.

**Алена СПАСЮК.**



**Любімай казкай дзятвы ўсіх пакаленняў "Па шчупаковаму загаду" пачаў у ліпені 1938 года сваю дзейнасць Дзяржаўны тэатр лялек Беларусі.**

**З таго часу мінула 55 гадоў. Цяпер беларускі лялечны ведаюць ужо ў Прыбалтыцы і Венгрыі, Польшчы і Германіі. На многіх міжнародных фестывалях дэманструюць сваё майстэрства артысты тэатра. На спектаклях "Канёк-гарбунок", "Іван-царэвіч і шэры воўк", "Кот у ботах", "Чырвоная шапачка" пабывала не адно пакаленне гледачоў. Многа і сур'ёзна працуе трупа над нацыянальным рэпертуарам.**

**НА ЗДЫМКУ:** артысты Валянціна БЕЛАШ і Аляксандр КАЗАКОЎ у спектаклі "Дзед і жораў".

**Фота У. ВІТЧАНКІ.**



За значны ўклад у развіццё нацыянальнага выяўленчага мастацтва Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета ўзнагароджаны медалём Францыска Скарыны мастакі-жывапісцы Аляксандр Кішчанка і Леанід Шчамялёў.

Ганаровае званне "Заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь" прысвоена мастаку-жывапісцу дацэнту кафедры выяўленчага мастацтва Віцебскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута Івану Сталярову.

НА ЗДЫМКУ: высокую ўзнагароду народнаму мастаку Рэспублікі Беларусь Леаніду ШЧАМЯЛЁВУ ўручае міністр культуры Рэспублікі Беларусь Яўген ВАЙТОВІЧ.

Фота Я. КАЗЮЛІ.

## НАШ КАЛЯНДАР



"...Люблю смех і жарты, сонца і навальніцу, закончаную работу і прынесеную людзям карысць, люблю жыццё", — так пісаў у сваёй аўтабіяграфіі вядомы беларускі празаік Іван Грамовіч.

Франтавік, ардэнаносец, які прайшоў дарогамі Вялікай Айчыннай ад званка да званка, страчваў сяброў і блізкіх у пекле вайны, ён ведаў цану жыцця, чалавечай прыстойнасці і подласці, любові і нянавісці, дабру і душэўнай шчодрасці. Пра гэта былі і яго кнігі "Шырокія азёры", "Да ясных вышыняў", "У лесе на палянцы", "Рына-Марына", зборнікі для дзятвы "Першае верасня", "Запаветны камень", "Сонца скрозь воблакі" і многія іншыя.

Ды і сам пісьменнік сказаў некалі, што, па сутнасці, уся яго біяграфія — у напісаных творах. Пісаў ён і пра тое, што добра ведаў, што перажыў.

А пачаў І.Грамовіч творчую дзейнасць яшчэ ў 1935 годзе, калі з лёгкай рукі прызнанага майстра слова Кузьмы Чорнага на старонках літаратурнага альманаха "Аднагодкі" апублікаваў сваё першае апавяданне "Ружавіўся ўсход". Сталай літаратурнай работай пісьменнік заняўся пасля Вялікай Айчыннай вайны, калі вярнуўся ў родны Мінск і пачаў працаваць у літаратурных часопісах "Маладосць", "Беларусь", "Вожык".

Больш сарака гадоў працаваў на ніве беларускай літаратуры вядомы празаік, працаваў сумленна, па-бацькоўску клапоцячыся пра маладых калег.

Многія творы Івана Грамовіча перакладаліся на рускую мову, выдаваліся і на іншых мовах народаў былога СССР.

Фота з фотатэкі БЕЛІНФАРМа.

# "ВАШАГА ВЫХАДУ ЧАКАЛІ"

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

З 1960-га па 1968-мы мы з маці і бацькам Хрыста Бярберавым жылі ў Сафіі, і з таго часу, як я сябе памятаю, амаль ад кожнага з вялікай і патрыятычнай сям'і Бярберавых я чуў, што я — балгарын. Справа ў тым, што размова аб нацыянальнай прыналежнасці ў Балгарыі — думаю, што нават у Еўропе ў цэлым, хоць і не бяруся сцвярджаць, — элемент выхавання, якое вядзецца перш за ўсё на бытавым узроўні.

**— Што вы маеце на ўвазе?**

— Напрыклад, дзіцё праштрафілася, прынесла чацвёрку — па нашай сістэме адзнак гэта двойка, — бацькі яго ўшчуваюць. Больш прымітыўныя аблаюць, а больш інтэлігентныя звернуцца да сумлення: "Хіба ты не балгарын, — спытаюцца яны, — што так дрэнна вучышся?" Паколькі мая маці ніколі не задавала мне аналагічных пытанняў, а ў мяне быў выбар, я пачаў думаць пра сябе як пра беларуса. Гэта, безумоўна, жарт, але хто ведае, можа нешта падобнае і адбывалася ў маёй душы... А вось калі я атрымліваў пашпарт, я свядома і абсалютна самастойна запісаў сябе беларусам, бо чамусьці лічыў, што як патрыёт Беларусі спатрэблюся больш.

Уладзімір Караткевіч у размове са мной неяк заўважыў: "Тваёй маці спатрэбілася пажыць за мяжой, каб адчуць сябе патрыёткай". На фоне іншых нацый адчуваецца, наколькі беларус дэнацыялізаваны.

**— Нідзе і ніколі раней вы не расказвалі пра сваіх продкаў ні па адной з ліній. Вы што, цураліся іх ці сароmeліся? Прабачце, але ваша падкрэсленае нежаданне гаварыць аб гэтым наводзіла на такую думку...**

— Дзіўная асацыяцыя... Наадварот, я імі ганаруся. Сваім бацькам, надзвычай таленавітым чалавекам... Літаратуразнаўцам, тэарэтыкам кіно і кінакрытыкам, перакладчыкам мастацкай літаратуры з рускай і беларускай моў на балгарскую.

Дзедам, Аркадзем Куляшовым, я ганаруся, як вялікім паэтам, але яшчэ больш, як чалавекам, які захаваў сваё сумленне незаплямленым нават у самыя цяжкія моманты нашай гісторыі. Сёння гэтая мая думка мае ўжо і гістарычнае пацвярджэнне. Проста я лічу, што гаварыць пра сваё паходжанне мае права толькі той, хто пацвердзіў яго справай. А я яшчэ не зрабіў у культуры нічога значнага, хоць і спрабую.

**— Як даўно і адкуль вы, "Ліцьвіны", з'явіліся на небасхіле беларускай народнай песні?**

— У тым складзе, у якім нас сёння ведаюць, мы існуем два гады. А з'явіліся мы, як і ўсе, з нябыту, стварыўшыся па сваёй уласнай ініцыятыве, і ні да кога не належым у сэнсе фінансавання.

**— Вы хочаце сказаць, што вы "падпольны" гурт?**

— Менавіта так, і не толькі ў плане арганізацыйным, але і ў плане музычным мы прадстаўляем тую з'яву, якая на Захадзе здаўна завецца "underground", што значыць выканаўцы, музыка якіх не з'яўляецца агульнапрызнанай, перад якімі зачынены дзверы самых рэспектабельных залаў, але якія маюць даволі шырокае кола сваіх прыхільнікаў, у тым ліку і апантаных.

**— Наколькі я ведаю, такая з'ява мела месца і ў СССР?**

— У Расіі, мабыць, мае месца і зараз, як, дарэчы, і на Захадзе. Унікальнасць Беларусі ў гэтым сэнсе ў тым, што наш "underground" не абмяжоўваецца жанрамі поп- і рок-музыкі. Ёсць шэраг фальклорных гуртоў, якія таксама можна аднесці да гэтай з'явы. Прытым, чым бліжэй гурт падыходзіць да сапраўднага, традыцыйнага гучання фальклору, тым больш у яго шанцаў трапіць у катэгорыю падпольных.

**— Як, на вашу думку, гэта выпадкова ці сведчанне нейкіх працэсаў, што ідуць сёння ў нашай культуры?**

— Гэта сведчанне, хутчэй, не працэсаў, а застою. Прычым, застою не творчага, а адміністрацыйнага. Ці нават грамадскага.

**— Удакладніце, калі ласка, сваю думку.**

— Традыцыя выканання фальклору, што склалася ў нашым музычным мастацтве, ужо далёка адышла ад народнай. Сучасныя маладыя выканаўцы, адчуваючы нібыта гэты разрыў, скіравалі свае творчыя пошукі ў напрамку аўтэнтыкі. Гэта добра ці не? Як вы лічыце?

**— Пэўна ж, добра.**

— І парадаксальна адначасова. Бо культурнае грамадства, якое натуральна знаходзіцца ў палоне традыцыі, што ўжо ўсталявалася за доўгія гады, іх не ўспрымае, не паспяваючы, мабыць, асэнсаваць з'яву. Тут магла б і павінна была б дапамагчы музычная крытыка, але яна ў нас, як і ўсякая мастацкая крытыка сёння, калі ідзе працэс тэхнакратычнай манапалізацыі культуры, у загоне.

**— А што гэта за працэс?**

— Працэс перамогі маскультуры над сапраўднай культурай.

**— А ў чым розніца?**

— Культура заўсёды была вынікам індывідуальнай творчасці, а імкненне перавесці яе як бы на рэйкі прамысловасці робіць яе таннай штампоўкай па ўжо існуючай мадэлі. Такая штампоўка — гэта культура для ўжытку, а не для душы, для развіцця чалавека як асобы духоўнай. Па сутнасці, гэта сурагат культуры, плён яе апашлення тэхнакратычным падыходам. Гэта, можна сказаць, вынік шматгадовай палітыкі скажэння і выкаранення народнай песні. Не ўсе ўжо памятаюць, як яна павінна гучаць.

**— А як вы суадносіце сябе з маскультурай?**

— Па-сутнасці, мы таксама з'ява маскультуры ў сэнсе ўздзеяння на шырокую аўдыторыю, на розныя слаі грамадства. Не абавязкова ж маскультура павінна быць сродкам масавага раскультурвання. Але ж мы працуем на культуру дзеля шырокіх мас, а не на масавае раскультурванне. І аўтэнтычны фальклор у рэшце рэшт быў музыкай народа і для народа. Дарэчы, розніца паміж культурай і антыкультурай не ў элітарнасці адной і масавасці другой, а хутчэй у духоўнасці адной і бездухоўнасці другой. У прынцыпе можна ствараць і элітарную антыкультуру, калі пад антыкультурай мець на ўвазе яе бездухоўнасць.

**— Шмат каму з першага праслухоўвання здаецца, што вы спяваеце так, як можа спяваць усякі.**

— Нам гэта двойчы прыемна. Па-першае, гэта сведчанне таго, што традыцыйная культура народных спеваў яшчэ не знікла канчаткова. Мне неяк расказвалі, што адна бабулька з-пад Клімавічаў, пачуўшы "Ліцьвіноў" па радыё, выказала сваё захапленне ў такіх словах: "Гэныя не брэшуць!" Шкада, што народ ужо адвучылі лічыць тое, што ён спявае сам для сябе, мастацтвам. Па-другое, прыемна, што да свайго роднага стылю спявання народ адносіць і нас. Па сутнасці, такім выказваннем народ сведчыць, што мы спяваем так, як хацелася б спяваць яму.

**— Здзіўляе, што вы адразу пачалі спяваць на высокім мастацкім узроўні. Якое тлумачэнне гэтаму вы знаходзіце?**

— Перш-наперш гэта сур'ёзнасць падыходу да фальклору. Мы ставімся да кожнай песні вельмі асцярожна. Тым больш, што гурт складаецца з людзей невыпадковых: амаль усе маюць тое ці іншае дачыненне да фальклярыстыкі.

**— Атрымліваецца з нашай размовы, што вы падпольны гурт, які працуе ў накірунку капіравання аўтэнтычнага фальклору?**

— Не, мы яго не капіруем. Мы імкнёмся стварыць тое, што з-за пэўных гістарычных варункаў не адбылося. Мы спрабуем звязаць мяжу XIX—XX стагоддзяў з нашым днём. Імкнёмся надаць далейшае развіццё перарванай тады менавіта народнай традыцыі канца XIX — пачатку XX стагоддзяў, калі жыў яшчэ самы старажытны пласт фальклору і ўжо нараджаўся позні.

**— Цікава, як тады ставіліся да новага фальклору?**

— Па большасці адмоўна. Гармонік, напрыклад, успрымаўся тады як пошлы інструмент. Паглядзіце на той жа Мінск. Такое ўражанне, нібыта кожнае наступнае пакаленне жыло імкненнем знішчыць усё, што было да яго, і заснаваць свой, новы Мінск. З'ява, на жаль, надзвычай характэрная для нашай культуры ўвогуле. Мода на гармонік знішчыла дударства. Гэта толькі тое, што нам вядома. Мы ж спрабуем пераймаць фальклорную традыцыю, аднолькава шануючы і зберагаючы напластаванні розных эпох. Так, як бы яно магло адбыцца, калі б новае прыходзіла без руйнавання старога.

**— Як "Ліцьвіноў" успрымаюць за межамі Беларусі?**

— Неадназначна. У Літве, напрыклад, дзе мы выступалі на міжнародным фальклорным фестывалі, на нас глядзелі з захапленнем, але адначасова, як на дзіва, як на нешта, чаго не можа быць на Беларусі.

У Калінінградзе на фальклорным фестывалі нас амаль што абражалі. Прапанавалі выходзіць на сцэну — прадстаўнік кожнай нацыі выходзіў пад свой гімн — пад рускі альбо польскі гімны (у рэшце рэшт мы выйшлі пад "Лявоніху", бо яе ведаў аркестрант-беларус).

Сапраўды акцёрамі мы адчулі сябе ў Польшчы. І не столькі ў Беластоку, на зямлі этнічна беларускай (там нас з захапленнем слухалі на базары), а ў Лодзі, дзе мы адчувалі, што нас па-мастацку разумеюць. З таго часу мы, як музыкі, зноў марым апынуцца ў Лодзі, можа, у Варшаве ці Кракаве...

**— Як вы тлумачыце сабе такі прыём вашага ансамбля ў Польшчы?**

— Больш высокім узроўнем крытэрыя мастацтва, што заўсёды звязана з узроўнем культуры народа.

**— Атрымліваецца, што на радзіме вы адчуваеце сябе заўчасным ансамблем?**

— Ніколі не думаў так, але доля ісціны ў гэтым, мабыць, ёсць. А ведаеце, калі гэта і так, дык ужо ў мінулым. Мы адчуваем: у нас ужо ёсць, хоць і нешматлікая, але свая публіка.

**— Магу пацвердзіць вашу думку. Я слухала канцэрт у часе Першага з'езда беларусаў свету. Вашага выхаду чакалі. І не толькі выхаду, а таго новага, што "Ліцьвіны" падораць свайму слухачу. І вы не расчаравалі яго вашай "Ружа-кветкай"! Ведаю, што ў "Ліцьвіноў" і, асабліва ў іх кіраўніка, шмат праблем. І хачу, каб вы ведалі: на вас глядзіць, па вас раўняецца малады таленавіты беларус. Дык трывайце ж, і хай дапамагае вам Бог!**

Вольга ВЕЧАР.

*З НАРОДНЫХ ГЛЫБІНЬ*

# МІЛЫ ДЗІВАК







**Да Пятра Зляўскага аднавяскоўцы з вёскі Слабодка Браслаўскага раёна ставяцца па-рознаму. Хто з павагай, як да чалавека працавітага і таленавітага, а хто як да дзівака, які на старасці гадоў заняўся несур'ёзнай справай. Жыў вось, працаваў, як усе, а ў семдзесят два гады захапіўся раптам разьбой па дрэву. І так спадабалася яму гэтае рамяство, што не можа без яго жыць.**

**Дом Пятра Іванавіча ў Слабодцы доўга шукаць не давялося. Ён тут адзін такі: з разнымі фігурамі на франтоне і ў кветніку перад домам. І амаль усе сюжэты на біблейскія тэмы, якія яму, як чалавеку веруючаму, блізкія і зразумелыя.**

**Вось так і стаў Пётр Іванавіч у акрузе слаўтым. А работы яго трапілі ў экспазіцыю Браслаўскага музея. Зняты пра майстра і дакументальны фільм. Але гэтая слава не змяніла Пятра Іванавіча, ён толькі ўсміхаецца ў вусы ды глядзіць на ўсіх разумнымі і па-маладому яснымі вачыма.**

**І няхай называюць яго дзіваком, але менавіта такія людзі, узвышаючыся над паўсядзённасцю, дораць усім нам аптымізм і добры настрой.**

**НА ЗДЫМКАХ: работы Пятра Іванавіча на франтоне яго дома ў Слабодцы; Пётр ЗЯЛЯЎСКІ; гэтыя разныя фігуры захоўваюцца ў Браслаўскім краязнаўчым музеі.**

**Фота Я. КАЗЮЛІ.**

## НАВІНЫ ФІЛАТЭЛІІ

# У ГОНАР ПЕРШАГА З'ЕЗДА БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ

Да Першага з'езда беларусаў свету, які адбыўся 8—10 ліпеня ў Мінску, Міністэрства сувязі і інфарматыкі РБ выпусціла некалькі цікавых паштовых сувеніраў з эмблемай форуму. Эмблемай з'езда было адлюстраванне Святой Ефрасінні Полацкай — заступніцы зямлі і ўсіх людзей Беларусі. Госці і дэлегаты з'езда — а іх было больш за тысячу чалавек — мелі магчымасць набыць у паштовым кіёску ў будынку опернага тэатра, дзе праходзіў з'езд, паштовую марку, два спецыяльныя канверты і паштовую картку, а таксама пагасіць усе гэтыя сувеніры спецыяльным паштовым штэмпелем з адлюстраваннем крыжа Ефрасінні Полацкай на фоне зямнога шара і дзвюх рук, што аберагаюць гэты крыж. Па кругу штэмпеля дадзены надпіс "Першы з'езд беларусаў свету". Усе гэтыя паштовыя сувеніры аформіў вядомы беларускі мастак Э. Агуновіч. На марцы, картцы і мастацкім канверце (на канверце таксама надрукавана марка з адлюстраваннем "Пагоні") паказана эмблема з'езда на фоне карты Беларусі ў акаймаванні бела-чырвона-белай стужкі — колеры дзяржаўнага флага РБ. Адзін з канвертаў выдадзены як канверт "Першага дня", яго малюнак уяўляе сабой разетку з бела-чырвона-белай стужкі, у цэнтры якой малюнак, падобны на малюнак спецыяльнага штэмпеля.

У першы дзень работы з'езда паштовы кіёск працаваў у будынку опернага тэатра, дзе праходзіў з'езд. Паштовая прадукцыя, прысвечаная Першаму з'езду беларусаў, карысталася ў дэлегатаў і гасцей вялікай папулярнасцю, зрэшты, як і маркі беларускай пошты ранейшых выпускаў.

9 ліпеня спецыяльнае гашэнне было арганізавана на паштамце сталіцы рэспублікі. Задоўга да адкрыцця каля паштамта сабралася шмат беларускіх і прыезджых філатэлістаў, проста калекцыянераў і жадаючых зрабіць для сваіх калекцый і для сваіх знаёмых філатэлістаў за межамі Беларусі спецыяльнае гашэнне аб




Першым з'ездзе беларусаў свету, набыць маркі, канверты. Перад паштовым акном утварылася доўгая чарга, у якой давялося стаяць шмат гадзін і мінчанам, і прыезджым з Гомеля, Брэста, Віцебска, Гродна, а таксама філатэлістам з Смаленска, Вільнюса, Рыгі і Бранска.

Варта адзначыць, што ўся паштовая прадукцыя, выдадзеная да з'езда, упершыню надрукавана на фабрыцы Дзяржзнака Беларусі.

**Леў КОЛАСАЎ.**

*СПОРТ*

### ЗА ШАХМАТНУЮ КАРОНУ

У апошнім цыкле адборачных спаборніцтваў за званне чэмпіёна свету па шахматах беларускі гросмайстар Барыс Гельфанд дайшоў да чвэрцьфіналу, што лічыцца добрым вынікам. І вось новы старт у Швейцарыі. Мацнейшыя спартсмены планеты зноў павялі барацьбу за права кінуць выклік чэмпіёну свету.

Толькі каму? Яснасці тут пакуль няма. Бо сусветная федэрацыя шахмат прыняла рашэнне пазбавіць Г.Каспарава звання мацнейшага на планеце. Так што хутчэй за ўсё пераможца сярод прэтэндэнтаў сустрэнецца ці з Анатолем Карпавым, ці з галандцам Янам Цíманам.

Але да гэтага яшчэ далёка. Спачатку трэба трапіць у лік дзесяці лепшых на спаборніцтвах у Швейцарыі. І нам прыемна паведаміць, што Барыс Гельфанд пасля паловы дыстанцыі ўваходзіць у лік лідэраў.

### САПЕРНІКІ НАЗВАНЫ

Міжнародная футбольная асацыяцыя прыняла рашэнне дапусціць да гульняў за еўрапейскія кубкі дзве беларускія каманды — "Дынама" (Мінск) і "Нёман" (Гродна).

Пасля жараб'ёўкі сталі вядомы сапернікі нашых клубаў. Мінчане на першым этапе ў Кубку чэмпіёнаў сустрэнуцца з германскім "Вердэрам", а гродзенцаў у Кубку кубкаў чакае швейцарская каманда "Лугана".

### У ПРЫЗЁРАХ

Мацнейшыя скараходы Вялікабрытаніі, Расіі, Італіі і Беларусі правялі спаборніцтвы ў Ліворна.

Лепш за ўсіх тут выступілі расіяне. Не засталіся без узнагарод і нашы спартсмены. Беларусам уручаны прыз за другое агульнакаманднае месца.

У асабістым заліку вызначыўся Юрый Куко, які заваяваў сярэбраны медаль у хадзьбе на 20 кіламетраў.

### ПЕРАД ГАЛОЎНЫМ СТАРТАМ

6 верасня ў Ірландыі пройдзе першынство Еўропы па лёгкай атлетыцы сярод спартсменаў-інвалідаў па зроку.

Як генеральную рэпетыцыю перад гэтым чэмпіянатам расцанілі спецыялісты міжнародны турнір, што прайшоў нядаўна ў Польшчы. І нам прыемна паведаміць аб поспеху беларусаў: зборная рэспублікі заняла першае месца.

### У СЯРЭДЗІНЕ ТАБЛІЦЫ

Беларускія спартсмены дэбютавалі на сусветнай Універсіядзе, якая прайшла ў ЗША. На фінішы яны аказаліся ў сярэдзіне выніковай табліцы. Заваявалі пяць узнагарод. З іх дзве вышэйшай пробы.

Для параўнання скажам, што беларуская зборная абагнала па гэтаму паказчыку нават каманду Расіі, у якой не аказалася ніводнага залатога медаля.

### АЛЕЙНІКАЎ У ЯПОНІІ

Некалькі гадоў запар беларускі футбаліст Сяргей Алейнікаў, дарэчы, адзін з мацнейшых ігракоў зборнай былога СССР, выступаў за італьянскія клубы.

Цяпер наш спартсмен паедзе ў Японію, ён падпісаў кантракт на два з паловаю гады з мясцовай камандай "Асака Гамба".

**Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**

**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").**



**НАШ АДРАС:**

**220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**



**Газета набрана і зверстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Індэкс 63854. Зак. 1066. Падпісана да друку 26. 07. 1993 г.**